

Аляксандр Валкавыцкі ➔3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714




Пракурор Дарыюш Альшэўскі ➔5


http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 12 (3175) Год LXII Беласток, 19 сакавіка 2017 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Гайнаўская дэбата наконт выклятых жаўнераў

**Бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак 12 лютага арганізаваў у Гайнаўскім доме культуры публічныя дэбаты пад лозунгам «Перaадолейма розніцы» у справе адзначання Нацыянальнага дня памяці выклятых жаўнераў у Гайнаўцы.**



■ За адмысловы стол запрошаны былі (злева) Сяргей Нічыпарук, айцец Мікалай Келбашэўскі, Давід Паляшук, Ежы Сірак і Яўген Чыквін, а дэбаты вёў Дар'юш Шада-Бажышкоўскі (стаіць злева)



■ У першым радзе сядзяць праваслаўныя святары з мітрафорным протаіерэям Міхаілам Негярэвічам (злева), настаяцелем Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы

— Размовы пра «Бурага» і іншых выклятых жаўнераў будуць у Гайнаўцы жывымі. Паказванне сваіх поглядаў на вуліцах не вырашыць праблемы ацэнкі дзейнасці паасобных выклятых жаўнераў і таму дзеля дабра ўсяго насельніцтва нашага горада трэба размаўляць і пераадольваць розніцы падчас публічнай дэбаты, — сказаў яшчэ да дэбаты бургамістр Гайнаўкі **Ежы Сірак**.

Віцэ-бургамістр Гайнаўкі Андрэй Скепка пералічыў запрошаных на дэбаты — прадстаўнікоў Інстытута нацыянальнай памяці, Гістарычнага аддзялення Універсітэта ў Беластоку, сем'яў ахвяр атрада «Бурага», арганізатараў II Гайнаўскага маршу памяці выклятых жаўнераў, духавенства, падляшскага ваяводы, падляшскага маршалка, парламентарыяў, гарадскіх, паветовых і ваяводскіх самаўрадаўцаў.

У канцэртнай зале ГДК сабралася каля ста асоб, але на дэбаты не прыбылі прадстаўнікі Інстытута нацыянальнай памяці, Гістарычнага аддзялення Універсітэта ў Беластоку, каталіцкія святары, прадстаўнікі ваяводы і падляшскага маршалка, а таксама не было нікога з цяперашніх парламентарыяў, на што звярнулі ўвагу ўдзельнікі спаткання, Трохгадзінная сустрэча закончылася дэманстрацыяй фільма Юры Каліны «Сярожа». Да стала, за якім вялася публічная дыскусія, запрошаны былі галоўны герой фільма Сяргей Нічыпарук, арганізатар дэбатаў, гайнаўскі бургамістр Ежы Сірак, арганізатар Гайнаўскага маршу памяці выклятых жаўнераў Давід Паляшук, мітрафорны протаіерэй Мікалай Келбашэўскі і былы пасол Сейма Яўген Чыквін. Дэбаты вёў Дар'юш Шада-Бажышкоўскі з Беластока. Першым папрасілі выказацца былога парламентарыя **Яўгена Чыквіна**. Ён звярнуў увагу на трагічныя паслядоўнасці пацыфікацыі вёсак атрадам «Бурга», пасля чаго мясцовым праваслаўным жыхары сталі задумвацца, ці не выехаць на пастаяннае жыхарства ў Савецкі Саюз. Пазней спадар Чыквін напамінаў, што беларусы — суседзі палякаў, якіх узаемаадносіны былі найбольш мірнымі ў параўнанні да суадносін палякаў з іншымі народамі-суседзямі. Бургамістр Ежы Сірак сказаў, што сарганізаваў дэбаты, выходзячы насупраць просьбам сем'яў ахвяр атрада Рамуальда Райса «Бурага», якія моцна перажылі гайнаўскія маршы памяці выклятых жаўнераў. Звярнуў ён увагу на сужыццё беларусаў і палякаў у мінулым і супольнае ваеннае змаганне на розных франтах. Бургамістр прыгадаў, што шмат жаўнераў з Арміі Андэрса вярнулася ў Польшчу, каб будаваць айчыну ў такіх умовах, якія тады былі, а няма простага адказу наконт дзейнасці выклятых жаўнераў, якіх лёс назваў складаным і трагічным.

— Для мяне выклятыя жаўнеры, гэта былі людзі, якія не мелі выбару, не падыходзілі пад амністыю. Гэта героі, якія, нягледзячы на страчаныя пазіцыі, змагаліся да канца за краіну, — заявіў **Давід Паляшук** з «Нацыянальнай Гайнаўкі», які падаваў заяўку на арганізаванне II Гайнаўскага маршу памяці выклятых жаўнераў.

— Гасподзь прабачае заўсёды, людзі часам, а гісторыя ніколі. Гісторыя павінна нас вучыць. Павінен быць дыялог і зразуменне, а нас, духоўных, абавязвае малітва, каб не было больш такіх трагічных здарэнняў. Павінны быць сужыццё, дыялог, пакора, узаемнае зразуменне і любоў. Я за тым, каб не было тут маршаў. Тут жывуць людзі, якія памятаюць тыя страшныя здарэнні і не трэба абвастраць абставін, — сказаў мітрафорны протаіерэй **Мікалай Келбашэўскі**, дадаўшы, што нельга ўсіх выклятых жаўнераў ацэньваць адмоўна. Паведаміў ён, што з 1964 года з'яўляецца настаяцелем прыхода Успення Прасвятой Багародзіцы ў Кляшчэлях і пераняў ад свайго папярэдніка традыцыю штогод маліцца ў царкве, а пасля служыць паніхіду ў вёсцы Залешаны за ўпакаенне душ загінуўшых там 29 студзеня 1946 года.

— Выклятыя жаўнеры гэта мае браты, — заявіў **Сяргей Нічыпарук**, ураджэнец Залешан, дзе 29 студзеня 1946 г. загінулі яго браты і іншыя сямейнікі. Перад сабранымі ён удакладніў, што да яго найбольш падыходзіць формула сіямскіх братоў, якія родзяцца злучанымі з сабою і найчасцей не ўдаецца такіх братоў разлучыць жывымі.

— Наша гісторыя трагічная, да такой ступені трагічная і цяжкая, што хочацца спытаць: дакуль не зразумеем, што мы як браты сіямскія? — сказаў **Сяргей Нічыпарук** і зрабіў яшчэ параўнанне да двух крыжоў у канцы вёскі, рымска-каталіцкага і праваслаўнага, якія стаяць побач сябе і пасля падаюць разам. — Колькі нашых сем'яў спалучылася праз любоў двух людзей розных веравызнанняў. Людзі дзеляцца толькі на разумных і дурных, а іншыя падзелы неістотныя.

Пасля выказвання запрошаных за адмысловы стол сталі выказвацца асобы з залы. **Барбара Паляшук**, сястра Давіда Палешука, арганізатара маршу, выступіла ў абароне Гайнаўскіх маршаў памяці выклятых жаўнераў і гаварыла, што розныя гісторыкі па-рознаму ацэньваюць дзейнасць атрада Рамуальда Райса, псеўданім «Буры». Пасля вострай крытыкі дзеяняў атрада Рамуальда Райса і ўдзельнікаў Гайнаўскага маршу выклятых жаўнераў з боку ўдзельнікаў дэбатаў, Давід Паляшук разам з сябрамі з «Нацыянальнай Гайнаўкі» выйшлі з канцэртнай залы ГДК і з калідора назіралі за пазнейшымі падзеямі ў зале.

Яшчэ раней радны горада Бельск-Падляшскі **Тамаш Суліма**, які даследуе дзейнасць выклятых жаўнераў, гаварыў, што трэба, каб дэбата на тэму выклятых жаўнераў адбылася ў Варшаве і павінны прыняць у ёй удзел гісторыкі і прадстаўнікі Інстытута нацыянальнай памяці і таксама былы прэзідэнт РП Бранislaў Камароўскі, які быў ініцыятарам устанаўлення Дня памяці выклятых жаўнераў. Тамаш Суліма адзначыў, што ёсць пытанне адносін выклятых жаўнераў да нацыянальных меншасцей Польшчы. На зале прысутныя былі нашчадкі, сваякі і знаёмыя ахвяр атрада «Бурага», якія ўспаміналі трагічныя здарэнні з 1946 года і наогул крытычна ацэньвалі ідэю Гайнаўскіх маршаў выклятых жаўнераў. Сяргей Нічыпарук і яго сын Мар'юш Нічыпарук успаміналі, як гінулі нявінныя дзеці і іншыя жыхары Залешан з рук жаўнераў атрада «Бурага». Аднак спадар Сяргей вельмі станоўча, як праўдзівага героя, апісаў жаўнера з атрада «Бурага», які дазволіў уцячы ўсім людзям зачыненым у падпаленай у Залешанах хаце, страляючы з аўтамата толькі ўверх. Маладая жанчына паставіла закід, што ў Гайнаўцы многа гавырыцца пра «Бурага», а мала ўспамінаецца пра «Інку», памяць якой сталі адзначаць у Нараўцы. Гайнаўскі гарадскі радны **Мацей Баркоўскі** заклікаў так выказвацца, каб рабіць высновы на прымірэнне. Многа разоў выступаў перад сабранымі **Мар'юш Нічыпарук** і заклікаў арганізаваць чарговыя спатканні супольна з арганізатарамі Гайнаўскіх маршаў памяці выклятых жаўнераў. Калі б удалося высветліць, якіх выклятых жаўнераў лічыць героямі, а якіх нельга ўслаўляць, то пасля такой разборкі прапанаваў ён супольна адзначаць Дзень памяці выклятых жаўнераў. Пад канец дэбатаў прыбыла Агнешка Рамашэўская, кіраўнік тэлеканала «Белсат», які выпусціў фільм «Сярожа», і заклікала выказвацца падчас дэбатаў так, каб выклікаць як найменш эмоцый.

❖Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

Размову з пракурорам ІНП **Дарыюшам АЛЬШЭЎСКІМ** які займаўся расследваннем злачынстваў «БУРАГА» чытайце на 5 старонцы





# Прырода, дубіна і Карта паляка

Як прагназавалі многія, у тым ліку два тыдні таму і ваш пакорлівы слуга, улада Рэспублікі Беларусь зноў узялася за рэпрэсіі супраць сваіх грамадзян. І тут не трэба быць нейкім аракулам ці вялікім экстрасенсам. Дубіна — гэта асноўны і па вялікім рахунку адзіны аргумент кожнай аўтарытарнай сістэмы. Як бы яна не мімікравала і не гуляла ў розныя знешнія праявы лібералізацыі, якая б адліга не дэкларавалася — усё гэта гульні і пыл у вочы наіўным людзям, многія з якіх самі хочуць падманвацца. Дастаткова больш-менш ведаць гісторыю Савецкага Саюза, сутнасць гэтай дзяржавы, каб зразумець простыя рэчы — дзяржавы з ідэаламі і сутнасцю дыктатуры не могуць існаваць без рэпрэсій і падаўлення грамадзян, якія выступаюць супраць няздарнай, нікчэмнай і антынароднай ганебнай палітыкі. Ваўкі і шакалы ніколі не бываюць ад нараджэння і не становяцца потым вегетарыянцамі, такая іх прырода, такая глыбінная сутнасць. Таму і чарговая ўяўная „адліга" скончылася так хутка.

Улада Беларусі на гэты раз відавочна памылілася са сваім абсурдным дэкрэтам пра дармаедаў. Яна наўпрост зачапіла тую катэгорыю насельніцтва, якая дваццаць гадоў сядзела нібыта мыш пад венікам. У выніку супраць дзяржаўнай палітыкі рабавання выступілі цяпер не столькі грамадска актыўныя, палітычна свядомыя людзі, як раней на акцыях дэмакратычнай апазіцыі, а ўчарашнія нейтралы і нават ранейшыя прыхільнікі Лукашэнкі і яго курсу. На плошчах беларускіх гарадоў у гэтыя лютаўска-сакавіцкія дні можна было пачуць і настальгію па Савецкім Саюзе, і зайздрасць у бок Захаду, і спадзяванні на „матухну Расею", і выказванні, што нават у 90-я гады было лепш. Такія апошнія настроі народу дзяржаўнай уладзе як сярпом па адным вельмі саромным месцы. Бо яна заўсёды дэкларавала, што вывела краіну з „ліхіх дзевяностых", нібыта з развалу і безнадзейнасці, нават ганарылася гэтым. А тут выяўляецца, што насамрэч амаль 23 гады вяла і ўрэшце прывяла краіну ў тупік, а людзей у дэпрэсію і агрэсіўнасць. Таму і дадзена каманда пляжыць усіх грамадска-палітычных актывістаў і тых журналістаў, якія асвятляюць пратэстныя падзеі. Таму і пайшлі татальныя рэпрэсіі, каб збіць палітычныя настроі, перавесці пратэст і публічнае абурэнне хоць бы ў рэчышча эканамічнай незадаволенасці. Таму і прыпыніў начальнік дзяржавы свой абсурдны ўказ. Тыя, хто паляцеў хутчэй плаціць і заплаціў ганебны падатак, ужо кусаюць локці. Зразумела, што гэтая дзяржава нічога ім не верне. Па сваёй прыродзе яна здольная толькі забіраць, абіраць, захопліваць і махаць, махаць рэпрэсіўнай дубінай. Што перыядычна і робіць, спалучаючы часам методыку бізуна і невялікага перніка.

Многіх здзіўляе, чаму ў гэтых народных сацыяльных акцыях пратэсту амаль нічога не адбываецца на Гарадзеншчыне. Наш рэгіён у гэтым плане выглядае такім пасіўным і дастаткова інертным. Маё асабістае тлумачэнне гэтага наступнае — мясцовае насельніцтва гэтага рэгіёна яшчэ не настолькі збяднела, як іншыя рэгіёны Беларусі. Жывучы на пагранічны, зацягнуўшы пасы і сцяўшы зубы, яно, умудраецца яшчэ зарабіць на нейкім чаўночным бізнесе, перапродажы, усяляк камбінуе. Многія ездзяць на заробкі ў Польшчу і яшчэ могуць так-сяк забяспечыць сябе і свае сем'і. Гэта не Гомельшчына ці Магілёўшчына, дзе ўжо няма столькі гастарбайтараў у Расею, дзе з малога пamежнага гандлю ў сумежныя ўкраінскія ці расейскія раёны ўжо амаль нічога не заробіш. На Гарадзеншчыне амаль кожны трэці трымае ў адной кішэні фігу для ўрада, якую выцягваць, аднак, не спяшаецца ці не хоча. Бо ў іншай кішэні гэты кожны трэці мае прыхаваную Карту паляка, якую атрымаць становіцца ўсё прасцей. І, маючы гэтую Карту паляка, кожны з іх думае, што ў самы горшы і крытычны момант, ён „зваліць" з гэтай дзяржавы, пакіне гэты тэлевізійны „сацыяльны рай" і нават свае родныя мясціны. Таму нібыта і „спіць" Гарадзеншчына.

Але вясна яшчэ толькі ўваходзіць у свае правы. Прырода больш прадказальная, чым палітыка. Але ў кожным разе гэтая вясна будзе вельмі цяжкай.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Польская талерка

Інтэнсіўны яшчэ да нядаўняга часу польска-беларускі флірт гэта ўжо счарсцвелая справа. А пасля «антыдармаедных» пратэстаў у Беларусі абымшэла нават таксічнай цвіллю. Я не сумняваюся, аднак, што ў выніку палітычнага гніласнага распаду, званага дыпламатычнай рэцыркуляцыяй, вернецца нават на міжнародны стол, як закуска да прымусовага абеду. Еўрапейскія краіны, вядома ж, адмовяцца ад такога прыёму галаўным болем. Сядуць за сталом тады Лукашэнка, пан Вашчыкоўскі і... Расія. Bon appetit, Польшча!

Прыгадаю, што недзе ў змрочных закутках галавы ці кабінета Вашчыкоўскага, дзе, як вядома, пануе адпаведная для вегетацыі вільгаць, прарасла ідэя адбіць рускім Беларусь. Уваход Аляксандра Лукашэнкі на Захад (чытай: у еўрапейскія банкі) вяжацца з лібералізацыяй эканомікі і аднаўленнем дэмакратычных стандартаў праз варшаўскую фортачку, што палічылася б поспехам польскай дзяржаўнай рацыі — рацыі, на самой справе, даволі заблытанай у кантэксце прагрэсуючай гаспадарчай дэлібералізацыі краіны і крышэння яе дэмакратычнага падмурка. Рацыя гэта, аднак, рацыя, у тым ліку асабістая пана Вашчыкоўскага, які падмацоўвае сваім аўтарытэтам бягучую знешнюю палітыку Рэчы Паспалітай. Яна заключаецца, агульна, ў тым, каб паказаць Еўропе, што палякі не абы-хто і ўмеюць развіваць палітычную стратэгію не горш за англічан, якія паказалі ёй жэст Казакевіча. Толькі што Польшча не з'яўляецца імперскім вострам з геапалітычнымі межамі, хоць таксама праўда, што не пазбаўлена яна цалкам мрояў пра магутнасць Міжмора... Пакуль яна, праўда, паміж Расіяй і Еўрапейскім Саюзам. Паміж аўтарытарнымі молатам і кавадлам, на якім выкоўваюць росквіт і міжнародну бясленку. Беларусь «паміж — паміж» была б падобная на амартызуючую фетравую пракладку. Цікава, што непатрэбна такая Літве і Латвіі.

Усё пачалося некалькі месяцаў таму з відных візітаў высокапастаўленых, але наўрад ці вядомых, парламентарыяў у Беларусі. Гэта значыць, па большай частцы невядомых, апрача іх правадыра маршалка Сейма, славутага тым, што не расстаецца са сваім маршалкоўскім жазлом. Памятаем, як ён перанёс яго з залы пленарных пасяджэнняў парламента, дзе яго пастаяннае месца, у парламенцкія сені, каб разам за скліканымі ціхачом калегамі «лепшага сорту» правесці галасаванне над дзяржаўным бюджэтам. І не толькі над бюджэтам. Змасаванае галасаванне званае «сенцавым», несумненна, знойдзе сваё месца ў аналах еўрапейскага парламентарызму. І ў хроніках польскіх аналах сораму. Ну, хай там. Польскія госці ў Беларусі былі прадстаўлены толькі адным лагерам цяперашніх улад. Вядома, што там няма месца для абы-якога хама. Бо ж кожны адзін з іх лічыць сябе панам, як традыцыйна прагаварыўся Яраслаў Качынскі. Нічога, што праз некалькі тыдняў пасля візіту. З кім размаўлялі і пра што, як правіла, невядома. Затое маршалка прыняў асабіста Аляксандр Лукашэнка, які, дарэчы, заве сябе толькі генералам у сваім уражваючым палацы. Памер палаца і яго пышнасць літаральна ашаламілі прадстаўніка польскага ўрада, які ў пазнейшых справаздачах з сустрэчы даў волю свайму поўнаму зачараванню. І палацам, і яго рэзідэнтам. Праз нейкі час з візітам з'явіліся ў польскім Сейме іх беларускія калегі — настолькі прамінэнтныя, што заслужаныя ў свайго палітычнага патрона. Хваленыя па імені і прозвішчы польскімі гаспадарамі за кампетэнтнасць і запал у распаўсюдзе дэмакратыі, вярнуліся ў сваю краіну аднолькава ананімнымі (асабліва ў сваіх беларускіх выбарчых колах), як аніматары марыянетак пасля заканчэння спектакля ў лялечным тэатры. Але такая іх ужо ж роля. Плённы візіт парламентарыяў абедзвюх краін давёў да ціску сокаў. У абмен за ліквідацыю падтрымліваючых беларускую дэмакратычную апазіцыю Тэлебачання Белсат і Радыё Рацыя, Беларусь павінна была адкрыцца на еўрапейскі капітал (чытай: польскі). З часам аказалася, што Польшчы дасталіся бескарысныя выжымкі мёртванароджанай ідэі пана Вашчыкоўскага. А рафінаванага нектару меў напіцца Аляксандр Лукашэнка. Але ж не паспеў. У Беларусі выбухнулі «антыдармаедныя» пратэсты. Калі яны не інспіраваныя Расіяй, дык, безумоўна, выклікаючыя ў яе стрававальныя патрэбы. З Лукашэнкам, ці без яго, Беларусь для яе з'яўляецца аскомным кавалачкам.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Беларусь у кляшчах даўгоў

Апошнія падзеі ў Беларусі разглядаем перш за ўсё праз прызму геапалітычнага бачання сітуацыі. Расейска-ўкраінская вайна, праблемы з уцекачамі, тэрарызм у еўрапейскіх краінах сталі тымі фактарамі, на фоне якіх наступіла згода «еўрапейскай эліты» на вяртанне блуднага сына — Аляксандра Лукашэнкі на еўрапейскія салоны. Спалоханыя брусельскія чыноўнікі пасля вынікаў непрадказальных і разбуральных афрыканскіх і блізкаўсходніх рэвалюцый дайшлі да высновы, што лепей у Еўропе мець дачыненне з апошнім яе дыктатарам, чым з нестабільнасцю чарговага дэмакратычнага перавароту. Усе знакі на небе і зямлі паказвалі ім, што ў краіне Беларусь засталіся толькі законапаслухмяныя жыхары, а рэшткі апазіцыянераў-адмарозкаў з'яўляюцца ўсяго толькі натхняльнай крыніцай для жартаў і насмешак з іх самаму Аляксандру Рыгоравічу і ягонаму апарату прапаганды і рэпрэсіі. Бо ўсё павінна ісці ў наступным парадку: адзін толькі кіраўнік-бацька і ягоная краіна, а не беларуская дзяржава, у якой жыве паднявольны народ, а не адказныя і свабодныя грамадзяне. За абяцаную цану «палітычнай стабільнасці» еўрапейцы пачалі здымаць санкцыі і гаварыць пра супольныя бізнесовыя «здзелкі». Тады цягам амаль года кіраўнік Беларусі стаў перад светам прыстройвацца ў пёры лібералізацыі, застаючыся папраўдзе ваўком, але апранутым у авечую шкуру. Разам з еўрапейцамі, а асабліва з суседняй Польшчай, пачалі беларускія ўлады спробу стварэння супольнага бізнесу. Беларускія фірмы і ўпакоўкі сталі перапаковачным плацдармам і раем для еўрапейскіх тавараў, якія ізноў паплылі на расейскі рынак. А братанне і сватанне з усходнім суседам прыгожа глядзелася і слухалася ў тэлебачанні. Усё дзеля аднаго — захавання сваёй улады і такой жа хеўры. Каб захаваць уладу, Аляксандру Лукашэнку пад зараз патрэбны грошы, грошы і яшчэ раз грошы. Гадамі такую заруку давала яму перш за ўсё расейская капельніца. Але апошнія расейска-беларускія гандлёвыя войны паказваюць, што Расея аж так не хоча мець суседа, які жыве толькі на яе халяву. І прыкруціла на 20 адсоткаў гайкі для беларускіх нафтаперапрацовачных камбінатаў, будучых асноўным апірышчам беларускай эканомікі. У выніку прыбытак ад экспарту беларускага паліва за 2016 год зменшыўся аж на 40 адсоткаў. І пачалася гаспадарчая, пакрокавая дэстабілізацыя. Нашумелы закон пра дармаедаў — гэта адна з самых адчайных форм і спроб знайсці грошы на існаванне ўлады, у якой яшчэ маюцца рэсурсы, але якіх пазбаўлена ўжо большасць беларускага грамадства. І гэтае прынікжэнне ў адным з асноўных чалавечых правоў — права на працу ўскалыхнула беларусамі па ўсёй краіне. Маршы пратэсту маўклівай да гэтай пары большасці грамадства паказваюць адно: не было аніякага беларускага, эканамічнага цуду і нейкай асобнай гаспадарчай дарогі развіцця. Усё было жыццём у крэдыт, які сёння трэба сплачваць. Нерэнтабельнасць і банкруцтва беларускіх прадпрыемстваў сталі, на жаль, сумнай праўдай. Нават феадальная, кантрактная сістэма працы не ў змозе стрымаць пратэстныя настрої звычайных людзей. На фінансавых рынках павіслі не толькі цёмныя хмары, але пагроза эканамічнага цунамі. Паводле міжнароднага рэйтынгавага агенцтва Фіч, замежны доўг Беларусі наблізіўся да крытычнай рысы. На яго пагашэнне дзяржава выдаткоўвае 23 адсоткі ад бягучых плацяжоў. Доўг Беларусі нета складае зараз 55 адсоткаў валавога ўнутранага прадукту. Крытычная адзнака для дзяржавы гэта 60 адсоткаў. У гэтым годзе на выплату замежных крэдытаў Беларусь патрабуе ажно 3,4 мільярда долараў. Рэзервавалютныя зберажэнні Беларусі гэта толькі 4,99 мільярда долараў. Пры тым Мінск вінаваты Маскве 600 мільёнаў долараў запазычанасці за газ. У такой сітуацыі Беларусь становіцца вельмі нявыгадным крэдытаплацельшчыкам для міжнародных устаноў. Нават Міжнародны валютны фонд адмовіў ёй у чарговых пазыках. Такім чынам для Аляксандра Лукашэнкі фінансавыя абцугі становяцца рэальнай пагрозай для ягонай улады.

**Яўген ВАПА**

# Аляксандр Валкавыцкі

## — як настаўнік стаў сімвалам камуністычнага ярма

На мінулым тыдні праз медыя пракацілася інфармацыя, што войт гміны Нараўка Мікола Павліч адмаўляецца ад дагэтуляшняга існавання **Аляксандра Валкавыцкага** ў публічнай прасторы. Пра міфы і непраўдзівыя закіды ў бок трагічна загінулага Аляксандра Валкавыцкага чытаем у артыкуле Міколы Ваўранюка. (рэд.)



■ Настаўніцкая канферэнцыя ў Беластоку. 1943-1944. Першы план злева: Аляксандр Валкавыцкі, Уладзімір Карчэўскі, Вера Карчэўская (з дому Матэйчук), за німі ў акулярах старшыня Беларускага Аб'яднання Уладзімір Тамашчык.

Злачынца, здраднік, савецкі і фашысцкі калабарацыяніст, агент НКВД і гестапа — такія інфармацыі выкідае гугл, калі хочаш нечага даведацца пра Аляксандра Валкавыцкага. Так пішуць ультраправыя польскія інтэрнэт-парталы і шырэй невядомыя грамадскія арганізацыі, якія дамагаюцца змены назвы вуліцы Валкавыцкага і яго нагага імя ў Пачатковай школе ў Нараўцы. І супастаўляюць яго асобу з іншай ураджэнкай ваколіц Нараўкі — Данутай Седзікуўнай „Інкай", санітаркай атрада польскага ўзброенага падполля Зыгмунта Шындзеляжа „Лупашкі", расстралянай у 18 гадоў камуністычнай бяспекай у Гданьску. Пішуць адназначна, што Аляксандр Валкавыцкі выдаў маці „Інкі" гестапа, дзе тая і загінула.

„Аляксандр Валкавыцкі нарадзіўся ў 1895 годзе ў вёсцы Заблотчыне, Гайнаўскага павета, у сям'і малазямельнага мужыка, — чытаем у афіцыйнай біяграфіі, якая вісіць у кабінеце беларускай мовы, але якой ужо няма на сайце школы. — Бацькі Аляксандра, нягледзячы на цяжкія эканамічныя і сацыяльныя ўмовы, стараліся па меры сваіх сціплых магчымасцей забяспечыць сыну адукацыю. У 1902 годзе пасылаюць 7-гадовага хлопца ў расійскую школу ў Нараўцы".

Да Першай сусветнай вайны ён не толькі закончыў пачатковую школу, але і гімназію ў Свіслачы. А пры немцах — васьмімесячныя беларуская настаўніцкія курсы ў той жа Свіслачы. Затым працаваў настаўнікам у беларускай школе ў вёсцы Прыкалесь Ваўкавыскага павета (сёння ў Пружанскім раёне) да закрыцця школы польскімі ўладамі ў 1919 годзе.

— Гэта быў найстарэйшы брат майго бацькі, — гаворыць Яўген Валкавыцкі, пенсіянер, у мінулым дырэктар Пачатковай школы ў Нараўцы. — Я дзядзькі не памятаю, бо нарадзіўся ўжо пасля яго трагічнай смерці, але ў сям'і згадвалі яго як разумнага чалавека, з галавой. Бацькі не дарма паслалі яго ў школу. Можа гэта і мела ўплыў на далейшы лёс нашай сям'і, бо не толькі я стаў настаўнікам, але і мая старэйшая сястра, і нашы сямейнікі працавалі і працуюць у школах.

Хаця Яўген Валкавыцкі быў дырэктарам тае самае школы, што і яго дзядзька, да прысваення ёй імя не меў ніякага дачынення. Гэта сталася раней, яшчэ ў 1960-я гады. Аляксандр Валкавыцкі падыходзіў як найлепш — загінуў з рук рэакцыйнага падполля, дык можна было яго прылічыць да ліку абаронцаў народнай улады. А да таго яшчэ пераўжыў дыскрымінацыю з боку ўлад даваеннай Польшчы. Хаця меў адпаведную адукацыю, як беларус не мог працаваць у школе. Спачатку дапамагаў бацькам на гаспадарцы, а затым працаваў у лесе. У школу вярнуўся толькі пры савецкай уладзе — з 1939 па 1941 год працуе дырэктарам Пачатковай школы ў Масеве. Калі немцы дазваляюць адчыніць беларускую школу ў Нараўцы ў 1943 годзе, яе кіраўніком становіцца Валкавыцкі. І працуе там пасля вызвалення, у першы бурны школьны год, да трагічнага дня 17 красавіка 1945 года.

— Аляксандр Валкавыцкі быў ліквідаваны атрадам Пятай Віленскай брыгады Арміі Краёвай у Нараўцы, — кажа магістр Пётр Лапінскі з Інстытута нацыянальнай памяці ў Беластоку. — Як прычыну камандзір брыгады маёр Зыгмунт Шындзеляж „Лупашка" ў сваім рапарце назваў тое, што Валкавыцкі быў „камуністычным арганізатарам". З дакументаў Дзяржаўнага архіва вынікае, што быў ён сакратаром гміннай ячэйкі Польскай рабочай партыі. Дзе-нідзе можна прачытаць, што партыйны білет атрымаў ён тры дні перад расстрэлам. Я аднак бачыў дакументы, якія паказваюць, што ўступіў ён у партыю 22 снежня 1944 года.

Ці членства ў партыі гэта дастатковая прычына расстрэлу? І ці гэта дастаткова, каб называць яго злачынцам? Жыхары Нараўкі сумняваюцца. Галасаванні ў Гміннай радзе, як і сярод настаўнікаў з бацькоў вучняў паказалі, што большасць за тым, каб надалей заставаўся ён патронам вуліцы і школы.

— Калі пачалі нас бамбардаваць мэйламі з патрабаваннем змяніць імя школы, — кажа Марыя Леўша, дырэктар Комплексу школ у Нараўцы, — я паведаміла пра ўсё Куратарыю асветы ў Беластоку і звярнулася ў ІПН з просьбай адшукаць дакументы, якія б пацвярджалі нягодныя паводзіны Аляксандра Валкавыцкага. Адказ быў такі, што знойдзены толькі агульныя інфармацыі пра падзеі 17 красавіка 1945 года, перш-наперш паказанні жаўнераў у судзе. Нічога пра тое, што быў ён канфідэнтам якой-небудзь злачыннай улады, ці сам здзейсніў злачынствы. „Адшуканне і дакладны аналіз інфармацыі патрабуюць падрабязных, доўгатэрміновых доследаў гэтай тэмы", — чытаем у пісьме ІПНу.

Абмен лістамі адбыўся ў 2013 годзе, калі з'явілася першая хваля паклёпніцкіх тэкстаў пра Аляксандра Валкавыцкага. З таго часу, аднак, ніхто такіх пошукаў у архіве ІПН не зрабіў. Няма ніякага збору дакументаў, прысвечаных Валкавыцкаму. Яго прозвішча паяўляецца толькі, сярод іншых, пры нагодзе апісання таго ж нападу падполля на Нараўку ў красавіку 1945 года, у выніку якога ён загінуў.

— Усе акалічнасці паказваюць на тое, што ў час вайны Аляксандр Валкавыцкі быў не толькі дырэктарам школы, але і актыўным сябрам калабарацыяніскага Беларускага камітэта ў Нараўцы, — кажа магістр Пётр Лапінскі. — Захаваныя дакументы пацвярджаюць, што ў Беларускім камітэце былі даносчыкі, з-за якіх пацярпелі жыхары ваколіц. У гэтым кантэксце, аднак, прозвішча Аляксандра Валкавыцкага не паяўляецца. Як і ў грыпсах Яўгеніі Седзіковай з гестапа. Яна называе іншага чалавека, які выдаў яе нямецкай паліцыі.

— Аляксандр Валкавыцкі хацеў быць настаўнікам — расказвае прафесар Алег Латышонак, старшыня Беларускага гістарычнага таварыства ў Польшчы. — Ствараў беларускае школьніцтва. У міжваенны перыяд не мог выконваць вывучанай прафесіі, бо не было беларускіх школ. Адчынілі іх толькі саветы ў 1939 годзе. Калі іх замянілі немцы, то праз нейкі час таксама дазволілі беларускія школы і Валкавыцкі працягваў навучанне дзяцей. Пасля ўцёкаў немцаў застаўся на месцы, хаця не мог не ведаць, як саветы абыходзяцца з супрацоўнікамі беларускіх камітэтаў. У 1944 годзе, калі стала вядома, што Нараўка будзе ў Польшчы, прапанаваў ён, каб мясцовая школа была польскай, а беларускія дзеці вывучалі ў ёй родную мову. Але ўжо гэта не спадабалася некаторым бацькам і атрымліваў ён пагрозы, што прыйдзецца яму расплаціцца за гэта. Так і сталася. Як гісторык магу сцвердзіць, што няма ніякіх доказаў злачыннай дзейнасці Аляксандра Валкавыцкага. Не ведаю, чаму яго ўзялі на прыцэл. Тым часам у іншых мясцовасцях, не толькі на Беласточчыне, але па ўсёй Польшчы ёсць цэлыя кварталы, названыя ў гонар людзей, якія сапраўды дзейнічалі на шкоду польскага народа.

Гэта неўзабаве зменіцца, бо 2 верасня ўступіў у сілу Закон аб дэкамунізацыі (аб забароне прапагандавання камунізму або іншага таталітарнага ладу ў назвах будынкаў, аб'ектаў або іншых устаноў грамадскага карыстання ад 01.04.2016 г.), які дае год органам мясцовага самакіравання на замену маральна састарэлай назвы на больш адпаведную сённяшняму дню.

У Падляшскім ваяводстве зноў жа як прыклад камуністычнага рэлікту на адным з першых месцаў прыводзіцца прозвішча Аляксандра Валкавыцкага, як патрона школы і вуліцы ў Нараўцы. Адтуль той папераджальны рух гмінных улад і дырэкцыі школы — дыскусіі і галасаванне ў Радзе гміны і ў школьным асяроддзі. Чарговы раз Нараўка выказалася ў абарону статус-кво. Рух цяпер за дзяржаўнай уладай, якая мае права загадаць змяніць імя школы і вуліцы. Якімі аргументамі падапрэцца, каб пераканаць мясцовых? Ды ці мусіць падпірацца якімі-небудзь аргументамі?

Да гэтай пары аргументы ў публічным дыспуце не ўжываліся. Для тых, хто абліваў і аблівае яго граззю на розных інтэрнэт-форумах ніякія доказы непатрэбныя. Крыжаносцы заўсёды перакана584 ў сваёй праваце. Горш, калі тыя інсінуацыі паўтараюць журналісты, а неаднаразова рабілі гэта і беластоцкія штодзёнкі, і выпуск навін „Аб'ектыў" на Польскім тэлебачанні Беласток. Іх таксама можна яшчэ неяк апраўдаць — малой гістарычнай граматнасцю. Нічога аднак не апраўдвае гісторыкаў, якія не то што не маўчаць, а падтакваюць натоўпу. І то пры тым, што адзіны дакумент, які абвінавачвае Валкавыцкага, гэта рапарт „Лупашкі" з прыгаворам „камуністычнаму арганізатару". Гэтая фраза стала мультыплікавацца і абрастаць новымі словамі: здраднік, калабарацыяніст, злачынца і гэтак далей.

— Такія абвінавачванні пішуцца з адной мэтай, — кажа прафесар Алег Латышонак, — каб апаганіць чалавека. Абкідай кагосьці балотам, то заўсёды нешта прыклеіцца. Ні пра якія тут доказы і гаворкі быць не можа.

Адзіны даказаны факт, што Аляксандр Валкавыцкі быў беларускім настаўнікам. І на яго няшчасце, ягоны жыццёвы шлях перасекся са шляхам Пятай Віленскай брыгады АК пад камандаваннем Зыгмунта Шындзеляжа „Лупашкі". І на гэтым скончыўся, але толькі зямны, бо працягвае ён жыць як пэўны сімвал. У Народнай Польшчы, калі пасляваеннае ўзброенае падполле лічылася злачынным, тыя, каго яно забіла, узвялічваліся як героі. А калі цяпер антыкамуністычных партызан змясцілі ў пантэон герояў, дык аўтаматычна іх ахвяры сталі вінаватымі і справядліва пакаранымі.

Аляксандру Валкавыцкаму, здавалася, у жыцці шанцавала. Хаця не было лёгка, тым не менш перажыў дзве сусветныя вайны, цара, санацыю, саветаў і немцаў. І на канец усё-такі шчасце яго пакінула. Згінуў не з тых рук, што трэба. І гэта на сённяшні дзень, здаецца, найбольшая яго віна.

**Мікола ВАЎРАНЮК**

**Беларускі Настаўнік №2 2016 г.**



## Вясенняя выстаўка

Чорна-белая паштоўка з тэлевізійнага серыяла „Чатырох танкістаў і сабака". На ёй маладыя, прыгожыя, з крыху заклапочаным позіркам салдаты стаяць пад дрэвамі. Вайна ж у рэшце рэшт. Таня з другога класа, слушна заўважае адсутнасць сабакі. Ніколі не бачыла гэтага фільма. Маё пакаленне — яго выхаванцы. Будучы ў Таніным узросце я захаплялася героямі тэлесерыяла, іх разважлівасцю, дабрынёй, адвагай, вонкавай і ўнутранай прыгожасцю. З цягам часу сталі яны асновай добрага, польскага кіно.

На адвароце той жа картачкі чытаю :

*„Serdeczne pozdrowienia z pogodnej Czechosłowacji przesyła nieznośny*

*Witek.*

*P.S. ... biorąc pod uwagę naszą umowę, postanowiłem jeszcze raz napisać, ponieważ mój adres jest nieco inny. I nie raz przychodzi mi na myśl, że dlatego nie otrzymuję listu. Być może nie ma Cię w domu. Więc proszę bardzo, by Ci ktoś z domu przesłał ten adres:*

*W.O. Baza p-ty polowej Nr 7708*

*Stacja p-ty polowej Nr 7705*

*Jedn. Wojsk. 28 33-L*

*U.P.T. Kłodzko-3."*

Быў цёплы верасень 1968. Паштоўку даручылі на вул. Гарбарскую ў Крынках.

Засохлая, чырвоная ружа прыклеена да белага кардона. Пабранзавела з гадамі і ад пылу сундукоў. Кругом ружы ўзоры з разбітай у мелкі мак ёлачнага шара. Выглядае быццам закупленая ў краме. Шмат сёння месцаў, дзе можна набыць рукадзельная паштоўкі. Калісь лічылі толькі на працу ўласных рукі фантазію. Паштоўку выканалі ў 1964 годзе. Усярэдзіне прыгожыя віншаванні:

*„... Jak konwalia wśród ukropia ożywiona tchnieniem wiosny, tak ty każdy promień życia miej szczęśliwy i radosny".*

Самаробных картак на выстаўцы ў школьнай бібліятэцы ў Крынках больш. Усе яны паўсталі ў шасцідзясятых гадах. Так як і гукавыя карткі. Надрукаваныя ў Маскоўскай „Праўдзе", з гуказапісам выкананым у Студыі гукавых запісаў Галены Новак у Беластоку па вуліцы Ліпеньскага маніфеста. Любімыя выканаўцы, любімыя танцы. На адной з іх знакаміты факстрот.

Чытаю пажаданні, адрасаваныя маім колішнім настаўнікам з вясковай пачатковай школы ў Шудзялаве. Даўно няма іх у жывых. След па іх застаўся толькі на гэтых картачках.

Год за мяне старэйшая дзяўчына з Астраўка паслала картку, выдадзеную ў 1979 годзе ў СССР. Прыгожая, каляровая, абавязкова з букетам хатніх кветак.

*„Z okazji Dnia Kobiet wszystkiego co piękne i miłe, co budzi radość i uśmiech, co szczęściem napełnia chwile, co w życiu jest osłodą i kroplą goryczy. P. Grażynce Ryś Joanna życzy".*

Прыгожыя словы былі накіраваны, вядома, да настаўніцы. Добра помню і ўспамінаю заўсёды жыццярадасную спадарыню Гражыну. Толькі не ведаю ці жыве яна яшчэ.

На бібліятэчнай выстаўцы старых паштовак „З крынскага сундука" можна паглядзець выданні 60-х, 70-х і 80-х гадоў. Адным выключэннем з'яўляецца невялікая картачка, якая на мой погляд датуецца на пералом XIX і XX стагоддзяў. Ёсць польскія, венгерскія але найбольш мінскіх і маскоўскіх, калісь агульна званых савецкімі. Мала таго, на некаторых віднеюць беларускія віншаванні.

Выстаўка вельмі вясенняя, кветачная і жаночая. Вясна — гэта ж жанчына, прынамсі ў дзіцячым выяўленні.

Калекцыяй паштовак падзяліліся са мной спадары Марак Жындуль і Марыюш Малеша.

Запрашаю паглядзець.

**Іаанна ЧАБАН**

# Бюджэт Карыціна

## з вялікімі рэсурсамі на інвестыцыі



Фота Уршулі ШУБЗДЫ

Палову бюджэту на 2017 год гміна Карыцін (пражывае ў ёй 3.500 людзей), прызначыць на інвестыцыі. Войт Міраслаў Лех падкрэслівае, што гэты і чарговы год будуць вельмі важнымі для гміны, якая, дзякуючы грошам між іншым з трансгранічных праектаў, значна павысіць турыстычную прывабнасць і палепшыць інфраструктуру ў гміне.

— Праектаў ужо закантрактаваных або блізкіх таго гміна мае сапраўды многа, — кажа войт Карыцінскай гміны Міраслаў Лех.

Каля 5,5 мільёна злотых гміна прызначыць на рамонт дарог, з чаго 4 мільёны ўдалося атрымаць са сродкаў Праграмы развіцця сельскіх абшараў. Гміна таксама на гэтую мэту атрымае грошы з так званых «схетыновак».

— Я не ведаю ці ёсць шмат гмін у Польшчы, дзе кожны пададзены праект разглядаецца паспяхова, што гарантуе паступленне знешніх фінансавых сродкаў, — кажа войт Міраслаў Лех.— Нагадаю, дарэчы, што першай «схетыноўкай» пабудаванай у Польшчы была дарога ў Карыціне. Я — як і мае калегі і радныя — лічым, што асновай для развіцця з'яўляецца добрая сетка дарог. Думаю, што дзякуючы таму фермеры і прадпрыемствы ў гміне Карыцін квітнеюць.

### 4,6 мільёна на рэканструкцыю раннесярэднявечнага гарадзішча

Ужо некалькі гадоў раней гміна Карыцін старалася атрымаць грошы на рэканструкцыю раннесярэднявечнага паселішча ў Мілеўшчыне. У 2011 годзе не ўдалося атрымаць сродкаў з трансгранічнай праграмы, пазней гміна не атрымала датацыі з Рэгіянальнай аператыўнай праграмы. Чарговую заяву, на гэты раз у Рэгіянальную аператыўную праграму Падляшскага ваяводства, гміна падала ў мінулым годзе. Першапачатковая інвестыцыя прапанаваная Карыцінам апынулася ў рэзервовым спісе праектаў для фінансавання. Гміна тады аспрэчыла вынікі конкурсу. Рашэннем Праўлення ваяводства бюджэт конкурсу пабольшылі адначасова «вызваляючы» рэзерв. Дзякуючы таму немалы грант трапіў у гміну Карыцін.

У 2014 годзе гарадзішча ў Мілеўшчыне, дзе паўстане культурны парк, даследавалі археолагі з Інстытута археалогіі і этналогіі Польскай акадэміі навук пад кіраўніцтвам Дар'юша Краснадэмбскага. Навукоўцы пацвердзілі ранейшыя даследаванні — гарадзішча было заснаванае ў X стагоддзі. Усе элементы аб'екта будуць размешчаны на гарадзішчы ў Мілеўшчыне. Будуць аднаўленыя вароты, часткі вала і частаколаў.

— Мы на аснове гэтага гарадзішча хочам паказаць жыццё нашых продкаў больш чым тысячагадовай даўнасці ў інавацыйны спосаб, адначасова спасылаючыся на традыцыйныя музейныя метады, — сказаў Міраслаў Лех.

Дэталі праекта парку культуры і археалагічных даследаванняў на гарадзішчы ў Мілеўшчыне будуць прадстаўлены на сустрэчы, якая адбудзецца пад канец сакавіка ў Карыціне.

— Семдзесят установаў і самаўрадаў старалася атрымаць грант, — кажа Міраслаў Лех. — Мы са сваім праектам апынуліся ў шчаслівай дваццатцы. Гэта для нас велізарны шанц.

### Трансгранічныя праекты з Беларуссю і Літвой

Сакольскія гміны Карыцін, Новы Двор і Янаў супольна з Гароднай склалі сумесны праект у рамках трансгранічнай праграмы «Польшча — Беларусь — Украіна». Пагадненне паміж уладарамі гмін і прадстаўнікамі Гародні было падпісанае ў Карыціне. Менавіта гэтая гміна з'яўляецца лідарам праекта. З польскага боку найважнейшым яго элементам з'яўляецца закупка шасці пажарных машын і рамонт трох пажарных будынкаў. Беларусы, у сваю чаргу, хочуць адрамантаваць гістарычны пажарны будынак.

Войт Карыцінскай гміны таксама адбыў сустрэчу ў Гродне з беларускай дэлегацыяй, якая рэпрэзентавала раён і горад Вілейку Мінскай вобласці. Абодва самаўрады прадставілі сумесную прапанову для фінансавання інвестыцый з трансгранічнай праграмы «Польшча — Беларусь — Украіна». Праект тычыцца пабудовы амфітэатра і развіцця пляжа на беразе карыцінскага заліва. Беларускі бок таксама за гэтыя грошы плануе будову амфітэатра і веласіпедных дарожак у Вілейцы. Кошт праекта складае каля 1 мільёна еўра, з чаго фінансаванне з боку Еўрасаюза складае 90 працэнтаў інвестыцыйных выдаткаў.

У сваю чаргу Карыцінская гміна ўжо атрымала грошы на супольны праект з Літвой. У яго рамках будзе адрамантаваны дзіцячы сад і зробленая інфраструктура гарадскога пляжа ў Карыціне. Грошы на гэтыя інвестыцыі гміна атрымае з праграмы «Interreg Польшча — Літва».

— У нас ёсць стратэгічныя інвестыцыі, пашырэнне дзіцячага садка ў Карыціне — тое, на чым нам найбольш залежала, — падкрэслівае Міраслаў Лех. — У агульным праект складзе каля 3 мільёнаў злотых, з чаго 85 працэнтаў будзе фінансаванае Еўрасаюзам. Для нас гэта была б ашаламляльная колькасць, калі б мы хацелі зрабіць гэта толькі за кошт уласных сродкаў. Мы таксама хочам, у рамках так званых «мяккіх праектаў» арганізаваць майстар-класы, курсы для настаўнікаў і бацькоў, — кажа Міраслаў Лех, войт Карыцінскай гміны.

### 20 гадоў з гмінай

Міраслаў Лех узначальвае гміну Карыцін з 1991 года. У час апошніх выбараў не было яму канкурэнта, які прабаваў бы спаборнічаць са шматгадовым войтам. Дзеянні Міраслава Леха перакладаюцца на развіццё небагатай гміны, якая, дзякуючы актыўнасці свайго войта, рэалізуе праекты за грошы з праграм і конкурсаў. Міраслаў Лех шансы для сваёй гміны бачыць у супрацоўніцтве з Усходам. Сам з'яўляецца сябрам Рады саюза сельскіх гмін РП, а таксама старшынёй праўлення Асацыяцыі сельскіх гмін Падляшскага ваяводства. Менавіта ён прадстаўляў ваяводства на XVIII Нацыянальным кірмашы «Еўрарэгіён Нёман» у 2016 годзе ў Гродне. Трымаючыся максімы «хто не грае, той не перамагае», увайшоў у 2017 год з велізарным бюджэтам і вялікімі планамі на наступныя гады.

**Уршуля ШУБЗДА**




Фота korycin.pl

Злева: Войт Шудзялава Тадэвуш Такарэвіч, войт Новага Двара Андрэй Гуменны, войт Янава Ян Кейка, дэлегат ад Гародні Сяргей Шпарло і войт Карыціна Міраслаў Лех



Фота korycin.pl

# Ці ІНП аспрэчыць вынікі следства сваіх пракурораў?

**Ці Інстытут нацыянальнай памяці аспрэчыць вынікі следства сваіх пракурораў у справе пацыфікацыі беларускіх вёсак атрадам Рамуальда Райса «Бурага»? На мінулым тыдні ў гутарцы з нашым радыё гісторык Беластоцкага аддзялення Інстытута Пётр Лапінскі сказаў, што некаторыя тэзісы следства выклікаюць сумневы, а іншыя факты пракуроры абышлі маўчаннем. Ці з'явіліся новыя дакументы або сведкі? Ці існуе магчымасць паўторнага разгляду справы? Як да закідаў некаторых гісторыкаў ставіцца пракурор, які разглядаў справу пацыфікацыі вёсак?**


фота: Wojciech Wojtkielewicz

■ Пракурор ІНП Дарыюш АЛЬШЭЎСКІ

**На гэтыя пытанні Лукашу Леанюку адказвае пракурор Беластоцкага аддзялення Інстытута нацыянальнай памяці Дар'юш Альшэўскі:**

— Пракурор ацэньвае пэўны фрагмент рэчаіснасці ў святле заканадаўства. Ён павінен ацаніць: ці дадзеная падзея мае прыкметы злачынства. Гісторыкі часам даследуюць справу шырэй, даследуюць падзеі мінулага, а пракурор ІНП вядома, звяртаецца да падзей мінулага, да прычын і матываў, але ён павінен даследаваць дадзены ўчынак з гледзішча права і гэта — ягоная асноўная мэта. У выпадку Рамуальда Райса «Бурага» колькасць доказаў была дастатковай для таго, каб прызнаць, што віноўнік і асобы з атрада, якія суправаджалі яго, дзейнічалі з мэтай знішчэння насельніцтва беларускага паходжання праваслаўнага веравызнання.

**Радыё Рацыя: — Ці існуе магчымасць паўторна правесці гэтае следства, дадаць нейкія факты?**

— Пастанова па справе пацыфікацыі беларускіх вёсак мае законную сілу, і, як кожная ўступіўшая ў законную сілу пастанова аб завяршэнні следства ў выпадку з'яўлення новых фактаў, новых доказаў можа быць узнятая з мэтай працягу следства. Я не хаваю, што пасля завяршэння следства паступалі звесткі, якія ставілі пад сумнеў абгрунтаванасць рашэння аб завяршэнні следства. Але гэта былі звесткі, якія ўсё ж разглядаліся ў працэсе следства. Гэта былі звесткі кшталту «кепская стаўленне насельніцтва праваслаўнага веравызнання да незалежніцкіх арганізацый», узносіліся нават такія аспекты, што «жыхары некаторых вёсак забівалі польскіх жаўнераў» ці «абстрэльвалі канспіратыўныя атрады». На падставе следчых дзеянняў не было знойдзена дастатковых доказаў, якія пацвярджалі б такія абставіны, што нейкім чынам маглі б апраўдаць пацыфікацыйныя акцыі атрада Рамуальда Райса.

**РР: — Ці Вы як пракурор ведаеце пра нейкія новыя дакументы або выказванні людзей? Або можа гісторыкі ІНП нешта паведамлялі вам?**

— Дагэтуль, не лічачы агульных фармулёвак, якія зводзяцца да таго, што ацэньваючы доказную базу, я не прыняў пад увагу доказаў асоб з кола незалежніцкіх арганізацый, не з'явіліся ніякія канкрэтныя звесткі, што я кагосьці не дапытаў, і што гэтая асоба мае нейкія канкрэтныя звесткі. Я вельмі нават хацеў бы, каб такія звесткі да мяне трапілі, і хацеў бы дапытаць тых людзей і без сумневу, усе звесткі, атрыманыя ад такіх асоб, былі б належна ацэнены. Я не хаваю, што калі гэта будуць настолькі істотныя звесткі, якія выявяць, што рашэнне аб спыненні следства было няслушным, я прыму адпаведныя меры, уключна з аднаўленнем следства. Тым не менш, на сённяшні дзень няма такіх абставін.

**РР: — Ці ведаеце Вы такі дакумент як загад кіраўніцтва «Бураму» аб пацыфікацыі беларускіх вёсак на тэрыторыі Бельскага павета?**

— Я азнаёміўся з гэтым дакументам і ён ацэньваўся з гледзішча садзейнічання пацыфікацыі беларускіх вёсак. Сапраўды, ён мог уплываць, быць штуршком, але трэба памятаць, што гэта быў загад напісаны ў верасні, а пацыфікацыі мелі месца праз некалькі месяцаў. Апрача таго, нам невядома, што маецца на ўвазе пад тэрмінам «пацыфікацыя». Ці мелася на ўвазе ліквідацыя вызначаных асоб, і гэта, прынамсі, вынікае з матэрыялаў следства, ці паказванне сілы Нацыянальнага вайсковага злучэння на тых тэрыторыях з мэтай падбудаваць канспіратыўныя дзеянні, а не правядзенне такіх дзеянняў, якія прывялі да масавага забойства асоб праваслаўнага паходжання.

**РР: — Ці такім чынам тая акцыя, што мела месца ў пачатку 1946 года, была самавольствам з боку «Бурага»?**

— Рамуальд Райс прыняў самастойнае рашэнне. Але таго, у якой ступені загад з верасня мог падштурхнуць яго да такіх дзеянняў, я сказаць не магу. Тым не менш такія абставіны як пачатковыя судовыя пакаранні Рамуальда Райса «Бурага» пра тое, што ён дзейнічаў па загадзе арганізацыі, ад якіх ён потым адмовіўся, сведчаць, што насамрэч гэта не было дзеяннем на падставе загадаў камандавання Нацыянальнага вайсковага злучэння.

**РР: — Ужо двойчы асяроддзі сем'яў ахвяр «Бурага» і таксама беларускае асяроддзе спрабавалі давесці да таго, каб польская дзяржава выплаціла кампенсацыі гэтым людзям. Ці паводле Вас існуе нейкая магчымасць, каб выплаціць такія кампенсацыі.**

— У цяперашняй прававой сітуацыі я, на жаль, не бачу магчымасці для сваякоў ахвяр дамагацца ад дзяржавы кампенсацыі. Працэс прызнання кампенсацыі за паваенныя дзеянні адбываецца на падставе закона «Аб прызнанні несапраўднымі пастаноў датычных асоб, рэпрэсаваных за дзейнасць на карысць незалежнасці Польшчы». Гэты закон не датычыць такіх выпадкаў як пацыфікацыя вёсак ці забойства фурманаў.

*На загадзе Рамуальда Райса «Бурага» на пачатку 1946 года былі пацыфікаваны беларускія вёскі Залешаны, Вулька-Выганоўска, Зані, Шпакі і Канцавізна. Атрад «Бурага» таксама расстраляў 31 фурмана з ваколіц Гайнаўкі.*

**Лукаш ЛЕАНЮК**
**Беларускае Радыё Рацыя, Беласток**

## АДГАЛОСКІ

### *Варта правяраць*

Сямейная памяць — з'ява цікавая, але заўсёды трэба памятаць аб тым, што гэтая памяць можа і падманваць. Датычыць гэта таксама вельмі цікавага артыкула Міры Лукшы пра Адама Карвеля і іншых (Адам Карвель з Залешан і іншыя, «Ніва» № 11 ад 12.03.2017 г.). На жаль, не ўсе захаваныя ў сямейнай памяці расказы Адама Карвеля цалкам сапраўдныя, а нешта і зусім прыдуманае.

Відаць не прыдуманае знаёмства Карвеля з бальшавіцкім героем Сяргеем Лазо. Яшчэ і сёння ўсхваляюць яго ў Расіі, толькі больш у якасці абаронцы рускай зямлі ад чужынцаў, чым рэвалюцыянера. Лазо ўстанавіў бальшавіцкую ўладу ў Краснаярску ды прымаў удзел у задушэнні антыбальшавіцкіх паўстанняў у Омску і Іркуцку. У першай палове 1918 г. змагаўся беспаспяхова з атаманам Сямёнавым, а пасля падзення бальшавіцкай улады на ўсходзе Расіі сам стаў партызанам. У сапраўднасці Лазо кіраваў дзікай бандай, якая тэрарызавала насельніцтва Далёкага Усходу. Як успамінаў навочны сведка, Лазо вербаваў у свой атрад лозунгам: «Партизаны, е** вашу мать, хорош мужиков грабить!».

Тым не менш Лазо здольны быў і на большае — напачатку 1920 г. на чале некалькіх соцень чалавек адабраў у калчакоўцаў Уладзівасток. Японцы, якіх стаяла ва Уладзівастоку тысяч дваццаць, толькі наглядалі за ходам падзей, пакуль анархісты, кіраваныя між іншым былой камісаршай атрада Лазо, псіхапаткай Лебедзевай, не выбілі ў Нікалаеўску-на-Амуры японцаў, якія спрабавалі абараняць насельніцтва горада ад здзекаў дзікай банды. Тады японцы сталі арыштоўваць бальшавікоў, у тым ліку і Лазо, дарэчы — без аніякага супраціву з яго боку. Ці японцы забілі Лазо самі ад разу, ці перадалі «белым», ці тыя спярша яго застрэлілі, ці спалілі жыўцом надалей няясна.

Самае важнае — гэта была грамадзянская вайна, у якой абодва бакі наводзілі крывавы тэрор. Калі Адам Карвель успамінаў, што быў ён чырвоным міліцыянтам, дык не буду яго за гэта асуджаць. Але ж ясна, што нічым добрым ён там не займаўся.

Спадар Карвель любіў, відаць, прыхарошваць свае расказы, бо ахоўнікам Леніна і Крупскай у Краснаярску ён быць не мог па простай прычыне — апошні раз Ленін быў у Краснаярску ў 1898 годзе — палечыць зубы і сустрэць таварышаў. Таксама ніякім чынам не мог спадар Карвель сустрэць у Жытоміры ў 1917 г. Пілсудскага, бо раздзяляла іх лінія фронту. Пілсудскі першы раз у жыцці наведаў Жытомір у 1920 г. падчас наступу на Кіеў. Герой артыкула знаходзіўся тады ў Сібіры.

Не разумею таксама апошняга сказа пра «вялікакняскія ліцьвінскія прозвішчы». Ідзе безумоўна пра прозвішчы Карвель і Гелажа, у якіх нічога вялікакняжацкага няма. Гэта звычайныя літоўскія прозвішчы, павярхоўна аславяненыя. Карвель гэта проста karvelis — голуб, а Гелажа відаць з geležis — жалеза.

Аўтарка артыкула перш за ўсё паэтэса, і ў гісторыі не мусіць разбірацца, але ж варта крыху больш часу прысвяціць праверцы запісаных расказаў наконт іх сапраўднасці.

**Алег ЛАТЫШОНАК**

# Вернісаж Міраслава Здрайкоўскага: „Былі. Ёсць. Будзем”





**Вернісаж мастака з Бельска-Падляшскага Міраслава Здрайкоўскага „Былі. Ёсць. Будзем” прайшоў 7 сакавіка ў Гародні. У выставачнай зале Музея гісторыі рэлігіі выстаўлена з два дзясяткі твораў мастака-беларуса: выявы ручнікоў, ікон Падляшша (яны так блізкія па духу Гарадзеншчыне). Чаму ў якасці назвы выбраны радкі з верша Уладзіміра Караткевіча кажа мастак Міраслаў Здрайкоўскі:**

— Па меркаванні статыстыкаў, колькасць беларусаў Падляшша змяншаецца. Назва выставы дае аптымізм на будучае. Нягледзячы ні на што, мы будзем.

Міраслаў Здрайкоўскі вядомы ў Гародні мастак. Як паведаміў гарадзенскі літаратар Віктар Сазонаў, менавіта ён займаўся афармленнем ягонай кніжкі „Суседскія былі”.

— Я, як толькі даведаўся, што гэты чалавек будзе выстаўляцца ў Гародні, з вялікім задавальненнем прыйшоў сюды. Бо ведаю яго не толькі як сціплага чалавека, але і як цудоўнага творцу, які афармляў маю кнігу. Хачу сказаць, што малюнкі, якія ён зрабіў з вялікім гумарам, вельмі пасуюць да тэксту. Чалавек цалкам адчувае тое, што ён робіць. З вялікім задавальненнем тут знаходжуся.

На вернісажы прысутнічаў генеральны консул Польшчы ў Гародні Яраслаў Ксёнжак. А музычную частку запоўніў ансамбль польскай песні „Хабры”, які выканаў некалькі сваіх твораў, сярод якіх былі і беларускія народныя.

**Якуб СУШЧЫНСКІ**
Беларускае Радыё Рацыя, Гародня

Зорка для дзяцей і моладзі



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# Маё сэрца вельмі ўцешылася!

Гутарка з Наталляй Лукшай, лаўрэаткай III месца ў Агульнапольскім конкурсе беларускай прозы і паэзіі «Дэбют», вучаніцай Нараўчанскай гімназіі.



**Зорка:** — *Наталля, Твой верш пра Баб'ю Гару гэта лірычная паштоўка з роднай мясціны. Што там Табе найбольш падабаецца?*

**Наталля Лукша:** — У Баб'яй Гары заўсёды пануе цішыня, якой не парушаюць машыны. Мы чуем спеў птушак, крык жураўлёў, выццё ваўкоў а таксама галасы іншых лясных звяроў. У нас усе ўсіх ведаюць, людзі ахвотна сустракаюцца ў вясковай святліцы. Усе размаўляюць па-свойму. Дзякуючы гэтаму, нам лягчэй вывучаць беларускую і рускую мовы. Проста, трэба сюды прыехаць і ўсё пабачыць на свае вочы.

**З.:** — *Да вас прыязджаюць турысты з шырокага свету. Як яны сябе паводзяць, што кажуць?*

**Н. Л.:** — Найбольш падабаецца ім цішыня і спакой. Большасць хоча адпачыць ад вялікага горада, мітусні, гулу. Хочуць пабачыць звяроў і птушак, якія дзіка жывуць у лесе — ад зуброў па чорнага бусла. Прыезджыя заўсёды звяртаюць увагу на дом маёй бабулі. Ён арыгінальны, памаляваны на сіні колер. Мы заўсёды прапануем турыстам цёплае малако ад каровы, хатні сыр, масла, яйкі, а ў летні сезон — грыбы і чарніцы.

Усё больш турыстаў цікавіцца гісторыяй вёскі і наваколля, цікавіць іх наша культура.

**З.:** — *Маеш аднагодкаў у Баб'яй Гары?*

**Н. Л.:** — Хоць у вёсцы няма моладзі ў маім узросце, мяне гэта не надта хвалюе. Я люблю размаўляць са старэйшымі людзьмі, яны цікава апавядаюць пра здарэнні з мінулага. У Баб'яй Гары жывуць людзі рознага ўзросту, ад маленькіх дзяцей, па старажылаў. Вось, нашай цудоўнай суседцы сто гадоў!

**З.:** — *Што значыць для Цябе ўзнагарода ў беларускім літаратурным конкурсе?*

**Н. Л.:** — Паспрабаваць сваіх сіл у конкурсе намовіла мая настаўніца, спадарыня Анна Кандрацюк. Я падышла да гэтага свабодна, не разлічвала на поспех. Я думала, што мае вершы дрэнныя, яны нікога не зацікавяць. А тут такі сюрпрыз! Скажу праўду, маё сэрца вельмі ўсцешылася.

**З.:** — *Якую кніжку актуальна чытаеш?*

**Н. Л.:** — Зараз рыхтуюся да гімназічнага экзамену, але з усіх аўтараў якіх я прачытала, найбольш падабаюцца мне кніжкі Агнешкі Лінгас-Ланеўскай.

**З.:** — *Запрашаеш людзей, каб прыехалі ў Тваю вёсачку Баб'ю Гару. А Ты сама марыш пра далёкія падарожжы? Хочаш кудысьці паехаць?*

**Н. Л.:** — Хацела б паехаць за мяжу, напрыклад у Лондан ці Парыж. Хоць месяц часу пажыць у гарадскім будынку-хмарачосе, адкуль распасціраецца прыгожая панарама. Хацела б пабачыць архітэктурныя помнікі, пазнаць культуру і традыцыі іншых народаў.

Але не хацела б памяняць сваёй Баб'яй Гары на іншае месца. Хачу тут жыць датуль, дакуль будзе можна.

**З.:** — *Думаю што Твае мары здзейсняцца. Дзякуем за размову!*

Наталля ЛУКША
Баб'я-Гара, Гімназія ў Нараўцы

## Вёска

Вёска мая.
Я яе люблю.
Нібы звычайная, малая,
а іншыя людзі яе наведваюць.
Баб'я-Гара.
Нібы простая назва,
нібы вядомае месца.
Аднак...
Вы яе толькі не памыліце.
Усе ўспамінаюць Баб'ю-Гару і горы.
Вось, неспадзяванка!
Ёсць такая вёска, тут, у нас!
Вы не ведалі?
Я ведала, што так будзе.
Яна скрывае ў сабе многа таямніц.
Якіх — я не скажу.
Самі прыедзьце, ды пабачце.
Я вас чакаю,
мілыя госці.

## Мы — людзі

Мы, людзі
— ходзім як маятнік гадзінніка
Раз у адзін бок,
Раз у другі.

Мы, людзі — спяшаемся як гадзіннік
Бяжым у школу, са школы,
Бяжым на працу, потым дадому.

Мы, людзі
— параўноўваем сябе з гадзіннікам
І як толькі вычарпаюцца батарэйкі,
спыняемся...

**УВАГА КОНКУРС! № 12-17**

Я ў прыгожым сарафане.
Залюбуецца — хто гляне.
Пра мяне складаюць песні...
Я і ў парку, я і ў лесе.
В....

(У. Мацвеенка)

**Загадкі з роднай хаткі**

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 2 красавіка 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 9-17: каляндар.** Узнагароды, новыя кніжкі Міры Лукшы «Гражынка і грак» з аўтографам, выйгралі Вікторыя Баркоўская з Арэшкава, Тамаш Ваўранюк з Нарвы, Юстына Астапковіч, Мар'юш Радзецкі з КШ № 1 ў Гайнаўцы. Віншуем!

# Самае-самае першае «Роднае слова»





Пакуль вучні са школы ў Нарве трапяць на агляды конкурсу «Роднае слова», арганізуюць свой школьны адбор. Гэта не толькі апошняя сур'ёзная праверка, але таксама магчымасць для новых удзельнікаў адчуць, як больш-менш праходзяць такія конкурсы. Былі элегантныя сукенкі і касцюмы, аўдыторыя і камісія з трох асоб. Затое амаль не было памылак і вялікага хвалявання перад выступам. Нават калі крышку нервы суправаджалі дэкламацыю, заўсёды можна было пасля выступу разлічваць на сябра або сяброўку, якой, вядома, вельмі падабалася. «Роднае слова» для вучняў з Нарвы не толькі дае магчымасць пазнаць новыя творы беларускіх паэтаў, але таксама інспіруе. Агата Астапчук выступіла са сваім уласным вершам. Вершык быў лёгкі і вясёлы. Думаю, што дарослыя, у тым ліку члены камісіі, слухаючы яго, з прыемнасцю думкамі вернуцца да сваіх школьных гадоў. Таму лічу, што Агата можа заваяваць не толькі раённыя элімінацыі, але і цэнтральныя! А калі гаворым аб выніках, варта ўзгадаць пра першыя месцы ў школьным адборы. Іх заваявалі: з класаў I-III — Аліўка Жэпка і Аліўка Порац; IV-VI — Агата Астапчук; а з гімназіі — Крыстыян Паскробка. Застаецца заваяваць цэнтральны этап конкурсу Роднае слова».

**Уршуля ШУБЗДА**

## Вершы Віктара Шведа



### Муха сустрэла станожку

Муха сустрэла станожку
І хоча пагутарыць трошкі:
- Чаму не прыйшла на каток,
Такі быў прыгожы дзянёк.

- Пакуль я канькі абула
Раптам зіма праміну́ла
І толькі цёплай вясною
Магу сустрэцца з табою.

### Жанчына ў магазіне

- Ці ёсць цвікі ў вас?
- Няма цвікоў якраз.
- А прылады садовыя?
- Прадалі парой вясновую.

- Мо ёсць вядро бляшанае?
- Таксама няма, каханая.
- Трэба замкнуць гэту краму.
- Замок загінуў таксама.

*Замкі і палацы Беларусі*

## ПАЛАЦ У КАМЕЛІЯХ І ВЯРГІНЯХ

«На ўсю Літву была вядомая аранжарэя Швыкоўскіх. Падобнай ёй не мелі і Радзівілы», — аднатаваў славуты этнограф Міхал Федароўскі.

Як не цікава, гэты цуд канчаткова «пераехаў» да нас, у Белавежскі царскі палац.

Сама аранжарэя знаходзілася ў Пружанах, пры неарэнесансавым палацы Швыкоўскіх. Яна была збудавана з чырвонай цэглы. Мела гонтавы дах, 2 ганкі, 9 дзвярэй і 9 акон. Уваход з паўночнага боку меў выгляд паўкруглай, зашклёнай веранды. Усярэдзіне знаходзілася 6 пакояў з дашчанай падлогай. У памяшканні сталі тры печы і комін. Усё гэта служыла раслінам. Тут расло за сто відаў кветак і 60 дрэў. Сярод іх красаваліся камеліі, валькамерыі, вяргіні, мацыёлы, пальмы, агавы, мітры, васковыя,



апельсінавыя і лімонныя дрэвы. У аранжарэі быў так званы «трэпгаўз», дзе захоўваліся ёмістасці з рошчынамі і хімікатамі. Побач палаца знаходзіўся пейзажны парк на 8 га. Там знаходзіліся алеі і сажалка з выспай, да якой вёў масток.

Пасля паўстання 1863 года маёнтак на нейкі час быў канфіскаваны, а пасля вернуты ўласнікам. Якраз у гэты перарыў расліны з пружанскай аранжарэі былі перавезены ў Белавежскі палац. Магчыма, частка з іх захавалася па сённяшні дзень ды расце ля сядзібы Белавежскага нацыянальнага парку.

**Зорка**

## Польска-беларуская крыжаванка № 12-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 8-17:**

Сэпія, дым, палац, расада, Об, праграма. Адліга, ом, патра, скала, лес, праца, дом, жаба.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Крыстына Мішчук** з Арэшкава, **Дам'ян Карнілюк, Вікторыя Гаць, Іаанна Нікіцюк, Магда Якубюк** з КШ з ДНБМ № 3 у Бельску-Падляшскім, **Магда Люнда, Аляксандра Бакун** з КШ № 1 у Гайнаўцы, **Кінга Леўша, Марцін Кузьма, Алек Чарнецкі** з Нараўкі. Віншуем!

Żelazko, Judasz, Akr, Skład, Szpak, Prezent, Ślina, Hydra, Woda, Honor, Usta, Wrona, Korona, Jak, Bierz, Smak, Data, Jana, Rękaw

# XVIII Конкурс беларускай гавэнды

**Васямнаццаты выпуск конкурсу расказчыкаў «Беларуская гавэнда» можна прыраўняць да паўналецця, а конкурс здабыў ужо прызнанне як сярод вучняў, так і настаўнікаў, якія іх рыхтуюць да аповедаў па-беларуску. 3 сакавіка ў Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы на беларускай мове распавядалі 23 расказчыкі са школ з Гайнаўкі, Нарвы, Нараўкі, Міхалова, Чыжоў і Новага Корніна.**

Ініцыятарам і арганізатарам конкурсу расказчыкаў «Беларуская гавэнда» з'яўляюцца настаўнік беларускай мовы ў Гайнаўскім белліцэі Ян Карчэўскі, а дапамагаюць яму дырэкцыя школы, вучні і настаўнікі. Публіку сёлета саставілі самі расказчыкі, іх настаўнікі і бацькі, а таксама вучні Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы. Мерапрыемства ўдастоілі віцэ-староста Гайнаўскага павета Ядвіга Дамброўская, якая многа гадоў працавала настаўніцай нямецкай мовы ў гайнаўскай беларускай школе, дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк, дырэктар Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы Яўген Сачко і яго намесніца Ніна Лукасік. Ліст да ўдзельнікаў конкурсу даслаў Міхаіл Рыбакоў, кіраўнік Культурнага цэнтра Беларусі ў Варшаве.

У гэтым годзе аповеды многіх вучняў былі на высокім узроўні. Фінальны рэзультат выступаў з расказамі на беларускай мове залежаў ад акцёрскіх здольнасцей маладых людзей, хаця здараліся моўныя хібы. Члены конкурснай камісіі, Яланта Грыгарук, метадыст па беларускай мове і заадно настаўніца беларускай мовы ў Гайнаўскім белліцэі, Ірэна Ігнатовіч, настаўніца-бібліятэкарка ў Гайнаўскім белліцэі і Анджаліна Масальская, настаўніца беларускай мовы ў Комплексе школ у Белавежы і бібліятэкарка ў Гайнаўскім белмузеі, усе выпускніцы беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта, звярнулі ўвагу на высокі ўзровень выступаў сёлетніх расказчыкаў.

— Сэрца цешыцца, калі чуем цікавыя аповеды з правільным вымаўленнем і амаль без памылак з націскам. Відаць, што вучні добра ведаюць беларускую мову і салідна рыхтаваліся да сённяшніх выступаў, — сказала Яланта Грыгарук.

— Мяне радуе вялікая колькасць расказчыкаў з пачатковых школ. Гэта дае падставы меркаваць, што конкурс будзе арганізаваны і ў наступных гадах. Цешаць займальныя расказы наймалодшых вучняў, якія цікава запрэзентаваліся з доўгімі аповедамі і былі пераканаўчымі для публікі, — заявіла Ірэна Ігнатовіч. Анджаліна Масальская ў сваю чаргу звярнула ўвагу на вялікую колькасць узнагароджаных расказчыкаў, што таксама сведчыць аб высокім узроўні конкурсу.

— Сёлета чуем цікавыя расказы, якія з энтузіязмам успрымае публіка. Важна, каб вучні мелі добры кантакт з публікай. Апрача слова могуць яны выконваць жэсты і карыстацца рэквізітамі. Расказчыкі могуць выступаць на літаратурнай беларускай мове і расказваць на мясцовых гаворках. Вучні хочуць расказваць і чакаюць конкурсу. Малодшыя дзеткі выступаюць з інтэрпрэтацыяй легенд, казак, а старэйшыя часта прэзентуюць бытавыя аповеды. Запісалася на конкурс ажно 30 расказчыкаў, але не ўсе сёння прыехалі. Вучняў, што першы раз прыбылі да нас са сваімі аповедамі, мы знаёмім з нашай школай, а пасля вялікая частка ўдзельнікаў «Беларускай гавэнды» паступае вучыцца ў наш белліцэй. — сказаў арганізатар конкурсу настаўнік Ян Карчэўскі.

Мерапрыемства ўдала вяла Наталля Васько. Настаўнікі мяркуюць, што падрыхтавацца да конкурсу расказчыкаў больш складана, чым да дэкламатарскага конкурсу. Аднак, здольным вучням пачатковых школ конкурс беларускай гавэнды падабаецца і яны сёлета прыбылі ў белліцэй расказваць і праявіць свае акцёрскія здольнасці.

— «Беларуская гавэнда» гэта цяжкі конкурс і яго ўдзельнікі павінны ўжо добра ведаць беларускую мову і ўмець наладзіць кантакт з публікай. Я стараюся так падабраць аповеды да выступаў, каб яны падыходзілі для нашых вучняў і каб былі цікавымі для гледачоў, бо гэта вельмі важнае падчас расказаў. Нашы малодшыя вучні бяруць прыклад ад старэйшых расказчыкаў і можна сказаць, што з'яўляюцца іх пераемнікамі, — заявіла настаўніца беларускай мовы з Нараўкі Анна Кандрацюк.



■ Наталля Васько з Гайнаўскага белліцэя


■ Алівія Рэпка з Пачатковай школы ў Нарве

Частка вучняў удзельнічала ў конкурсе чарговы раз. Ведалі яны як выкарыстаць свае ўмеласці і на што трэба звяртаць увагу, каб дабіцца перамогі. Наталля Васько, Крыстыян Паскробка, Тамаш Харкевіч займалі першыя месцы ў мінулых гадах і перамаглі сёлета. У катэгорыі звышгімназічных школ запрэзентаваліся толькі дзве вучаніцы Гайнаўскага белліцэя. Іх аповеды былі на высокім узроўні. Анна Нестарук цікава распавяла пра жанчын, якія не могуць выгаварыцца, і заняла другое месца. Наталля Васько займальна запрэзентавала аповед «Бабская логіка» і заняла першае месца.

— Свой аповед я падрыхтавала на падставе рускага кабарэ, а дапамагалі мне настаўнік Янка Карчэўскі, які рыхтуе мяне таксама да дэкламатарскага конкурсу і мая мама Барбара. Я старалася падабраць такі тэкст да расказу, каб быў ён цікавым і трымаў у напружанасці. Падумала, што наш беларускі тыднёвік «Ніва» будзе падыходзіць у якасці зручнай прычыны да аповеду. Таму сказала перад публікай, што ў «Ніве» прачытала тэкст спалучаны з маім аповедам і, распавядаючы пра «Бабскую логіку», трымала «Ніву» ў руках, — сказала наша карэспандэнтка з Гайнаўскага белліцэя Наталля Васько, якая нядаўна стала лаўрэаткай другога месца Алімпіяды праваслаўных рэлігійных ведаў, а ў мінулым годзе была лаўрэатам другога месца Алімпіяды беларускай мовы. Раней перамагала яна на конкурсах па беларускай мове, будучы вучаніцай гімназіі ў Нараўцы.

— Мне падабаліся аповеды маіх бабулі і дзядулі. Я таксама люблю расказваць падчас конкурсу. Калі нават нешта забуду, то сваімі словамі магу пераказаць задуманае, чаго нельга зрабіць падчас дэкламацыі. Конкурс расказчыкаў дае магчымасць падтрымліваць нашу беларускую мову і культуру. Калі загіне наша родная мова, то загінем і мы, беларусы, — заявіў Крыстыян Паскробка, гімназіст з Нарвы.

У катэгорыі гімназістаў Крыстыян Паскробка разам з Дар'яй Місяюк з Гайнаўскай белгімназіі занялі першае месца. Другое месца заняла Магдалена Мішчук з Гайнаўскай белгімназіі, а трэцяе — Валерыя Люляк з Гімназіі ў Міхалове.

— Выступаючы з беларускімі аповедамі падчас гавэнды мы паказваем свае становчыя адносіны да беларускай мовы і спадчыны нашых продкаў. Я люблю дэкламаваць, але таксама люблю распавядаць падчас гавэнды, — заявіла Магдалена Мішчук з Гайнаўскай белгімназіі, якую да конкурсу рыхтаваў настаўнік Ян Карчэўскі.

У катэгорыі вучняў пачатковых школ найлепш расказвалі і атрымалі першыя месцы Алівія Рэпка з Нарвы і Тамаш Харкевіч з Нараўкі. Другія месцы занялі Юльян Раманюк і Барташ Яканюк з Пачатковай школы № 6 у Гайнаўцы, Ніна Марціновіч з Міхалова і Дамінік Чыжэўскі з Новага Корніна. Трэцяе месца занялі ажно 7 вучняў — Паўліна Дзмітрук і Мартына Кердалевіч з ПШ № 3 у Гайнаўцы, Карнелія


■ Дар'я Місяюк з Гайнаўскай белгімназіі


■ Крыстыян Паскробка з Гімназіі ў Нарве


■ Тамаш Харкевіч з Пачатковай школы ў Нараўцы

Вшэбароўская і Аляксандра Хіліманюк з Нарвы, Аляксандра Шарэнас з ПШ № 6 у Гайнаўцы, Юлія Ахрымюк з Чыжоў і Вольга Сідарук з Новага Корніна.

— Добрай дэкламатаркай была ў мяне мама Алівіі Рэпкі. Сама Алівія таксама вельмі здольная вучаніца і пасля доўгай падрыхтоўкі да гавэнды яна ўдала запрэзентавалася перад публікай. Крыстыян Паскробка гэта ўжо вучань, які сам умее ўвасобіцца ў героя і толькі трэба спраўдзіць, каб не зрабіў памылкі падчас расказу ці дэкламацыі, у якіх ён сябе вельмі добра адчувае, — сказала настаўніца беларускай мовы Ніна Абрамюк з Нарвы. — Рыхтуючы вучня, я перш за ўсё падбіраю аповеды да характару і магчымасці вучня. Спачатку стараюся, каб дзеткі і моладзь зразумелі аповед, увасобіліся ў героя, а пасля звяртаю ўвагу на інтэрпрэтацыю расказу, вымаўленне, інтэрпункцыю і іншыя моўныя асаблівасці, каб аповед быў жывым і правільным.

— Мае вучні ў мінулых гадах не выступалі ў конкурсе гавэнды, але цяпер знайшліся адважныя вучаніцы, якія рашыліся расказваць. Вучні хочуць запрэзентавацца перад публікай, а я рыхтую ім аповеды, але бяру пад увагу таксама ацэнку дзетак. Пасля стараюся, каб малодыя расказчыкі навучыліся правільна распавядаць, — заявіла настаўніца беларускай мовы Марыя Крук з ПШ № 3 у Гайнаўцы.

Вучаніцы ПШ № 3 у Гайнаўцы Паўліна Дзмітрук і Мартына Кердалевіч сказалі, што падабаецца ім конкурс і цікавыя выступы іншых вучняў. Барташ Яканюк з ПШ № 6 у Гайнаўцы, які перамагаў падчас папярэдніх конкурсаў, сёлета цікава распавядаў пра пакупкі жанчын, але крыху не быў задаволены са свайго выступу. Яго мама Анна Яканюк, якая прыязджае з сынам на беларускія конкурсы, удакладніла, што ў сына было малавата часу, каб дапрацаваць выступ, які — паводле мамы — і так быў удалым.

— Я ўжо не хвалююся на сцэне і люблю прымаць удзел у конкурсах, — заявіў Юльян Раманюк з гайнаўскай «шасцёркі», а яго настаўніца беларускай мовы Беата Кендысь сказала, што ў Юльяна акцёрскія здольнасці і яна стараецца толькі падабраць яму адпаведны аповед.

Аляксандра Шарэнас — вучаніца другога класа «шасцёркі», пайшла ў школу ў шасцігадовым узросце, але патрапіла развучыць аповед і ўдала яго прадставіць.

Настаўніца беларускай мовы ў школе ў Чыжах Валянціна Андрасюк сказала, што зацікаўленне вучобай беларускай мове ў вясковых пачатковых школах яшчэ вялікае.

— Конкурс расказчыкаў патрэбны для вучняў, бо яны, распавядаючы перад публікай, здабываюць адвагу і бачаць, што родная мова запатрабаваная, — заявіла настаўніца беларускай мовы ў школе ў Новым Корніне Ніна Куптэль.

Перад уручэннем расказчыкам дыпломаў і ўзнагарод перад удзельнікамі конкурсу выступіў калектыў «Знічка».

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

заканчэнне; пачатак у папярэднім нумары

Размова з Уладзімірам Сідаруком, жыхарам Кузавы, шматгадовым супрацоўнікам „Нівы”.

# Чаромхаўскія будні



■ Паравознае дэпо цяпер; перад ім «стонка»

**— Была згадка пра кінаперасоўку. Куды Вы ездзілі з фільмамі?**

— Было ў нашым Беластоцкім ваяводстве 18 кінаперасовак, абазначаных сімваламі BR — Białostockie Ruchome — з нумарамі ад 1 да 18. Наша мела нумар 9. Мы выязджалі з Беластока ў напрамку Нарвы. Заязджалі ў Іванкі-Рагозы. У Нарве было пастаяннае кіно і мы туды не заязджалі. І Нарва абслугоўвала тыя навакольныя мясцовасці, дзе была ўжо электрычнасць, а мы ездзілі туды, дзе яе не было, дзе патрэбны быў агрэгат. Ехалі мы тады далей у Ласінку, Барысаўку, Навасады, Тэраміскі. Далей былі Арэшкава, Вітава, Чахі-Арлянскія, Палічна, Дабрывада, Кузава. Фільмы дэманстравалі ў школах і святліцах. Пасля былі Сухавольцы, Сакі, Малінніакі, Пашкоўшчына, Пілікі, Дабрміль, Кнарыды і Пятрова-Кшываколы. І Снежкі, Малочкі, Катлы, Пасынкі, Локніца... Усяго ў пачатку маёй працы абслугоўвалі мы звыш пяцідзесяці вёсак, а за адзін месячны праезд 23 вёскі — па адной вёсцы ў дзень. Я выбіраў месячны маршрут, паведамляў Ваяводскае праўленне кіно, а гэтая ўстанова паведамляла пажарнікаў, бо кожны раз патрэбны быў іх дазвол — каб было бяспечна.

Калі прымас Польшчы, кардынал Стэфан Вышынскі наведаў Драгічын, тады Ваяводскі камітэт партыі кінуў усе кінаперасоўкі ў наваколле Драгічына, каб адцягнуць людзей ад сустрэчы з прымасам; нам дасталіся Танкелі. Міліцыя кантралявала там усе сродкі транспарту. У Танкелях быў Вясковы клуб селяніна, а на Бугу быў тады яшчэ драўляны мост. Кіно раней у Танкелі не заязджала і на нас глянулі недаверліва. Калі заязджалі на шляхту, і калі не скажаш „Пахвалёны”, то ніхто не хацеў з такім госцем і гаварыць, малака ні хлеба не дастанеш таксама. І мы гэтага патрабавання трымаліся. І ў Танкелях пытаюць нас, што ж такое сталася, што да іх кіно заехала. Адказваем, што будзем прыязджаць. Ну, калі так, то добра. Было гэта ўлетку, на стадоле павесілі экран; тры дні там стаялі...

У кінаперасоўцы працаваў я амаль сем гадоў. Бывала, што начавалі ў самаходзе, сталаваліся ў выбраных сем'ях. Мелі асобныя талоны, за якія такая сям'я магла глядзець фільмы бясплатна. У самаходзе была печка, але здаралася так, што зімою, калі печка ўначы выгасла, то і шкарпэткі ў фільцах прымярзалі, усяляк бывала.

**— Ці многа людзей наведвала сеансы?**

— Наша Ваяводскае праўленне кіно ладзіла спаборніцтвы на продаж білетаў і ўтаргоўкі. А я пазнаёміўся з паняй Надзяй Курнатоўскай, якая працавала ў беластоцкім цэнтры кінапракату, адкуль бралі фільмы. А было так, што заехалі мы перад Вялікаднем у Вульку-Выганоўскую, начуем у самаходзе. Рана хтось грукае ў дзверы, выглядаю — пані Надзя; яе муж быў з Москаўцаў. І так мы пазнаёміліся. І калі якія фільмы толькі што паказваліся, то я стараўся браць тыя, што маглі прыцягнуць найбольш публікі. А пра фільмавыя навінкі я ведаў, бо ж рэгулярна чытаў „Фільм” і „Экран”. Выбіраў я галоўным чынам фільмы ваенныя, крымінальныя і пра каханне. Вось, для прыкладу, меў з'явіцца фільм „Вінету” — я заехаў, атрымаў стужку, але трэба ўзяць даражэйшыя білеты на той фільм. Зайшоў я да загадчыцы, яна аблаяла мяне, бо ж яшчэ той фільм не мне быў задуманы вышэйшым начальствам, але фільм застаўся пры мне і білеты атрымаў таксама... На васямнаццаць кінаперасовак мы ў згаданых раней спаборніцтвах трымаліся другога месца ў ваяводстве. А найбольш людзей у нас прыходзіла на фільмы ў Палічнай, Дубяжыне, Пашкоўшчыне, Малінніках, Кнарыдах, Ягуштове. І па меншых вёсках таксама шмат народу прыходзіла.

Быў такі эпізод — атрымалі мы фільм „Уваскрэсенне”, заехалі з ім у Пашкоўшчыну, там трэба было яго аж тры разы дэманстраваць, бо прыходзілі бабулькі па семдзесят-восемдзесят гадоў, якія хацелі пабачыць такі фільм. А нельга было паказваць фільмаў у перапоўненай зале, бо калі не былі захаваны патрабаванні супрацьпажарнай бяспекі, то мне магло б быць тугавата. І трэба было камбінаваць, і рызыкаваць, і больш гледачоў упускаць у залу. Бо ж і калі больш сеансаў у дзень, бо і больш бензіну расходаваў агрэгат, а гэта ўжо было не на руку шафёру, які той бензін намагаўся зэканоміць сабе. Дайшло да такога канфлікту, што мяне нават задумалі мае напарнікі выкінуць з самахода, сімулюючы нешчаслівы выпадак... Бо яны ўжо і матацыклы вазілі ў нашай машыне, на якіх раз'язджалі на зэканомленым паліве. І калі я аднойчы папрасіў, каб мяне падвезлі, то яны груба адмовілі. То тады і я прыняў меры дзеля вяртання належнага ўстаўнога парадку... А яны таксама сталі на мяне стукаць, што я шматлікім гледачам дазваляю глядзець фільмы бясплатна...

Былі мы акурат у Кузаве, набліжаўся Дзень чыгуначніка ў Чаромсе. Пагаварыў я з кузаўцамі і дамовіліся фільм паказаць раней, у дванаццаць гадзін апоўдні пачалі і ў чатыры закончылі. Два фільмы паказалі, бо па два розныя паказвалі за адзін сеанс. Жаніўся калега, запрасіў мяне на вяселле. Верасень, недзе каля пятай гадзіны пад вечар з'яўляюцца да нашага самахода рэвізоры з Беластока і пытаюць, чаму не паказваюць фільма. „Няма кіраўніка” — адказваюць мае супрацоўнікі. „А дзе?” — „Пайшоў на *Калеяжа*, на станцыю”. Кантралёры заходзяць да мяне ў хату, а бацька сказаў ім, што я на вяселлі. Штось тут не так — адны гаварылі, што я на Дзень чыгуначніка падаўся, а тут — што на вяселлі. То яны едуць на вяселле. А мне ўжо паведамілі, як справы развіваюцца, бяру веласіпед і качу ў Кузаву... Спаткаемся на пераездзе; накінуліся яны на мяне, чаму фільмаў не стаўлю. Я адказваю, што зрабіў гэта раней, бо так прасілі людзі; калі б я паказаў фільмы вечарам, то не было б гледачоў, якія пайшлі б на Дзень чыгуначніка. Я растлумачыў таксама і пра канфлікт у нашай камандзе; кантралёры адпусцілі мяне на вяселле. Шафёра перавялі ў іншую каманду, а неўзабаве і я адышоў з гэтай работы. А работа была цікавая, пазналі мяне многія людзі; вітаюцца цяпер са мною, а я пытаю, адкуль мяне ведаюць...

**— А цяпер спытаю Вас пра граніцу, якая пралягла недалёка ад Вашай вёскі: яна і Вашу сям'ю закранула?**

— Мая мама была з Апакі-Дварца, там раней быў маёнтак. Апаку перасякла граніца. З беларускага боку засталася Апака-Дварэц, якую назвалі Апакай-Малой. Мама і яе адзін брат апынуліся ў Польшчы. З Апакі за граніцай асталося бадай дзесяць хат, каля Хлявішчаў зараз. У Апацы астаўся другі мамін брат, там і ягоныя дзеці, мае дваюрадныя. У 1970-х гадах я ездзіў туды, да сваіх. У Доўбізне жыла мая дваюрадная сястра і там быў калгас; яе мужык працаваў кавалём у калгасе. А муж другой дваюраднай сястры быў сталяром. А дзядзька Косця быў цесляром і будаваў усе пагранічныя заставы; усе пагранічнікі яго ведалі. І калі ў Полаўцах былі адкрылі пераходны пункт, ён прыехаў да нас. Пабыў ён крыху, пагасцявалі і трэба яму вяртацца. Мы яго правялі на граніцу, ён ужо перайшоў браму, а мама прыпомніла: „Косця, ты ж яшчэ капы не ўзяў!” — крыкнула. Дзядзька вяртаецца, а камендант заставы: „А ты куда?”. Але дзядзька вярнуўся, капу ўзяў і паехаў.

І я ездзіў да сясцёр. Дачка адной з іх была замужам за старшынёй калгаса. А яго сын быў вайскоўцам і служыў у Германіі. І калі мы гасцявалі, то і той старшыня калгаса быў. І ён зараз строга цікавіўся, хто мы такія, бо там да палякаў ставіліся вельмі насцярожана. І калі былі ў чарговай гасціне, дык таксама накінуўся, якое ў нас сваяцтва.

**— Яшчэ вернемся ў Чаромху. Тут было паравознае дэпо...**

— Паставілі яго бадай у 1960-х гадах, і 1970-я гады былі зорным часам Чаромхі. У паравозным дэпо працавала больш за тысячу людзей. Спярша тут быў толькі пасажырскі транспарт, а калі задзейнічала перагрузачная станцыя ў Семяноўцы, то сюды зваліласся шмат таварнага транспарту.

**— У паравозным дэпо, кажаце, працавала звыш тысячы людзей. Чым яны займаліся?**

— У ліку працаўнікоў былі не толькі экіпажы цягнікоў, але работнікі майстэрні, якая вяла тэхнічны нагляд за чыгуначнымі транспартнымі сродкамі.

**— Колькі лакаматываў было ў мясцовым дэпо?**

— Дакладна не скажу, бо гэтым не цікавіўся, але мяркую, што больш за трыццаць лакаматываў.

**— І „стонкі”, і „гагарыны” тут былі?..**

[„стонкі” — дызельныя лакаматывы польскай вытворчасці, „гагарыны” — цяжкія дызельныя лакаматывы савецкай вытворчасці — А. В.]

— Спачатку „стонкі”, а пасля „гагарыны”, якіх было сама менш дзесяць. Цераз Чаромху ішоў транзіт з Германіі ў Савецкі Саюз. Быў час, што ў Чаромху прыязджалі нямецкія цягнікі з нямецкім экіпажам, цягнулі іх нямецкія паравозы „Ту”. А нашы машыністы калісь ездзілі ў Свіслач і ў Жэпін, а калі электрыфікавалі лінію ў Морды, то толькі ў Морды ездзілі дызельнымі лакаматывамі. А калі не стала транзітнага транспарту, то ў Чаромсе застаўся толькі пасажырскі рух.

**— Дзякую за размову.**



■ Руіны царскага паравознага дэпо

Гутарыў і фатаграфаваў Аляксандр ВЯРБІЦКІ



■ Злева: Лявон Тарасэвіч, Роберт Кусьміроўскі, Павал Грэсь, Гжэгаж Дамброўскі

# Адкрытая пяць гадоў. Не/адкрытая намі?

Пяць гадоў дзейнасці, 21 выстаўка, сустрэчы, дыскусіі, супраца са славутымі мастакамі... Галерэя Крынкі падвяла вынікі сваёй дзейнасці, выдаючы кніжку, якая можа ўцягнуць асобы, якіх не цікавіла яе існаванне ў новую (прынамсі) пяцігодку з ведамі і магчыма ахвотай, каб адкрыць сабе гэтае месца. Галерэя, заснаваная на грамадскіх асновах, мае дасягненні, якімі можна ганарыцца на Падляшшы, у Польшчы, на свеце. Як аказалася на сустрэчы ў беластоцкім клубе «Змена клімату», якая прайшла 5 сакавіка, заснавальнікі Галерэі маюць не менш амбітныя планы на будучыню. Жаданне прафесара Лявона Тарасэвіча — зрабіць выстаўку Ансельма Кіфэра, а таксама адкрыць мясцовых на тыя прапановы, якія, дзякуючы Галерэі, маюць яны «за плотам».

**«Калі б людзі наведвалі Галерэю, іх жыццё магло б стаць лягчэйшым, бо ў кантакце з мастацтвам чалавек развіваецца, атрымлівае новы зарад энергіі, задаецца мноства пытанняў, якія адцягваюць яго ад безнадзейнасці будзённшчыны, ад звычайнага чакання пенсіі».**

Дзеля чаго патрэбнае мастацтва? Для гульні? Сузірання? Рэфлексіі студэнтаў гісторыі мастацтва і культуразнаўства, якія ведаюць кантэкст і дыспуты? Гэта тое, аб чым я не маю паняцця, такі сорам. У Галерэі Крынкі расказ пра мастацтва даецца цікава, займанальна і без спецыяльнага вытанчанага паняткавага апарату. Жыве і дае жыць.

**«Калі сустракаешся з іншай думкай, калі супастаўляеш свае думкі з нечым, чаго можа нават не падзяляеш, то важнае, што бачыш рэчы, якія ў іншым выпадку ў Крынкі ніколі не прыбылі б».**

Лёнік Тарасэвіч у час падвядзення вынікаў пяцігадовай дзейнасці Галерэі выказаў спадзяванні наконт таго, што можа ў будучыні ўдасца наладзіць нейкае супрацоўніцтва з мясцовай школай.

— Можна было б гаварыць пра мастацтва не пры дапамозе планшэта, не віртуальна, але адукаваць жывым словам, — сказаў прафесар Тарасэвіч.

Часам складваецца ўражанне, што падзел на «паноў» і «хамаў» надалей падтрымліваецца... сістэмай польскай адукацыі. Як адзначае Тарасэвіч, у школах павінны вучыць свядомага ўжывання культуры. Не спажывання, а ўжывання, каб сабе ўсведамляць, што «густ з'яўляецца вызначальным фактарам сацыяльнай прыналежнасці». Папраўдзе, калі нават раз у год, у рамках заняткаў па пластыцы вязуць у Нацыянальны музей, з такой паездкі можна вярнуцца з рэфлексіяй, што маем толькі высокую культуру і... нічога больш. Толькі Міцкевіч, якога ўжо не чытаюць, і нічога. Галерэя прапануе паглядзець наВокал. У Крынках жыў сабе Яновіч. Цікава колькі разоў быў запрошаны ў школу, або на сустрэчы з мясцовай моладдзю. Цяпер тут тусуецца і Тарасэвіч. Працуе Галерэя.

**«Мы адышлі ад камуністычнай мадэлі культуры, што ўсе, якія ёю займаюцца, павінны ў ёй разбірацца».**

Галерэя Крынкі таксама правакуе. На вернісажах часта былі дыскусіі, былі яе ўдзельнікі... Вядома, так як гэта бывае на падзеях з бясплатным уваходам, вернісажы часта прыцягваюць людзей, якія штодзень займаюцца нечым іншым... Такі тып, які выпівае цэлы рад кубкаў з віном (на самой справе вельмі смачным), які распараджаецца вялікай колькасцю вольнага часу, пастаяннай гатоўнасцю абмяркоўваць палітычныя пытанні, які мае не задушаную акадэмічнай муштрай свабоду думак. Дзякуючы рэпрэзэнтацыі такога асяроддзя абмяркоўванае мастацтва набывала часта псіхадэлічны характар, а жаданне ўзаемаразумення ездзіла сапраўды на стракатым кані. На маю думку галоўнае, каб тое, што падае Галерэя, супаставіць з самім сабой. Магчыма менавіта самарэфлексія можа дапамагчы наладзіць нейкія адносіны з гэтым «чужым» творам.

**«Як я адзначыў, мы мясцовых не спрабуем атакаваць, але хочам прапанаваць рэчы, якія могуць служыць ім і быць прымальныя для іх».**

Тое, што адбываецца ў Галерэі Крынкі, з'яўляецца шматпавярховым працэсам, у якім перш за ўсё павінны прымаць удзел мясцовыя. Лёнік Тарасэвіч ці Паўлік Грэсь адыгрываюць тут ролю прафесійных кансультантаў, а не навязваючых свае фантазіі візіянераў. Проста, прапануюць. Лічу, што варта гэтай прапановай пакарыстацца. Нават таму, каб пасля такога вернісажу са спакойным сумленнем сесці глядзець свой любімы тэлесерыял.

**«Мы пачалі працу: паглядзім як усё разгорнецца. Самыя Крынкі не разумеюць, колькі мы робім для гэтага горада, а з другога боку не мусяць ведаць, бо людзі хочуць спакойна жыць, і яны могуць баяцца, што можам пачаць ім нешта навязваць».**

**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**

Цытаты: *«Крынкі гэта золата». Павал Грэсь у гутарцы з Лявонам Тарасэвічам*, [у:] *Галерэя Крынкі 2011-2016*, Крынкі 2016.







# http://bnknews.org

Некаторыя беларускія палітыкі кажуць, што ў Беларусі склалася класічная рэвалюцыйная сітуацыя — нізы не могуць жыць па-старому, а вярхі не могуць па-старому кіраваць. Цяжка сказаць, ці ёсць так увогуле, але элементы такой з'явы сапраўды прысутнічаюць. Падаецца, што насельніцтва і далей магло б жыць, калі ягоныя патрэбы больш-менш забяспечаны за кошт рознага кшталту сацыяльных палёгак і падачак. Праўда, апошнім часам іх становіцца ўсё менш, і з гэтага людзі пачынаюць выказваць сваё незадавальненне. Улады, магчыма, і хацелі б захаваць усё па-ранейшаму, аднак эканамічныя праблемы, звязаныя перш за ўсё са змяншэннем расійскай грашовай дапамогі, а таксама з уласнай суцэльнай карумпаванасцю прывялі да неабходнасці перагледзець так званую грамадскую дамову. У выніку сацыяльныя выгоды знікаюць — улады залазяць у кішэню нават беспрацоўным, і людзі бачаць у гэтым знявагу, якая яшчэ больш узмацняе незадавальненне такім гора-кіраўніцтвам.

На працягу амаль месяца ў Беларусі праходзяць так званыя „Маршы недармаедаў". Краіну накрыла хваля пратэстаў — на вуліцы выходзяць з патрабаваннем адмены падатку з беспрацоўных не толькі ў Мінску, але і ў іншых гарадах. Да эканамічных патрабаванняў адразу дададзена і палітычнае — адстаўка дзеючай улады на чале з дзейсным правіцелем Аляксандрам Лукашэнкам. Пра тое, што пратэст народны, а не інспіраваны выключна апазіцыйнымі структурамі, сведчыць правядзенне такіх акцый нават пры адсутнасці вядомых апазіцыянераў, бо многія з іх ужо апынуліся за кратамі.

Разам з тым апазіцыйныя сілы па-ранейшаму былі і застаюцца галоўнымі накіроўваючымі ўсяго пратэстнага руху. Таму не дзіўна, што адной з дат планаваных маніфестацый прызначана 25 сакавіка, якое займае ў беларускай гісторыі ледзьве не галоўнае месца. Асноўным натхняльнікам і арганізатарам акцыі выступае нядаўна створаны Беларускі нацыянальны кангрэс (БНК). Найбольш дэтальна з мэтамі і структурай кангрэса можна пазнаёміцца, калі зайсці на яго сайт, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://www.bnknews.org**.

Галоўная старонка сайта выглядае даволі проста і не надта прывабна. Узнікае ўражанне, што ён быў створаны на хуткую руку, настолькі прымітыўная яго будова і выкарыстанае ў тэкстах беларуска-рускае двухмоўе.

Уверсе цэлага выяўлення на галоўнай старонцы месціцца эмблема БНК і невялікая колькасць выйсцяў на іншыя рубрыкі сайта. Гэта — „Дзень Волі", „Мэты", „Навіны", „Акцыі", „Каментары" і „Кантакты". Усю астатнюю частку галоўнай старонкі займаюць навінныя рускамоўныя паведамленні, аздобленыя фотаздымкамі. Зразумела, што асноўная тэма ў іх — праходзячыя па Беларусі акцыі пратэстаў і ўсё, што з імі звязана.

Згодна з інфармацыяй, размешчанай у рубрыцы „Мэты", БНК дамагаецца кансалідацыі дэмакратычных сіл Беларусі дзеля пабудовы вольнай, незалежнай і заможнай краіны. Утварылася новае грамадска-палітычнае аб'яднанне 15 мая 2016 года і ў яго ўваходзяць сем партый і грамадскіх арганізацый.

Паколькі БНК асноўную стаўку на бліжэйшы час для дасягнення сваіх мэт робіць менавіта на акцыю, запланаваную на Дзень Волі ў Мінску, то запрашае на яе людзей з усёй Беларусі. Пра гэта распавядаецца ў рубрыцы „Кантакты", дзе месціцца тэлефоны і адрасы электронных пошт рэгіянальных прадстаўнікоў кангрэса.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

ДАТА З КАЛЕНДАРА

Малады абарваны талент



## 100 гадоў з дня смерці
# Уладзіміра Хлябцэвіча

У сям'і беларускага гісторыка, педагога і праваслаўнага святара Івана Хлябцэвіча выхоўвалася шасцёра дзяцей. Але найбольш здольнымі раслі два сыны — Яўген і Уладзімір. Яўген быў старэйшы за брата на 10 гадоў. Ён скончыў духоўную семінарыю ў Вільні і Пецярбургскі ўніверсітэт. Браў актыўны ўдзел у літаратурна-грамадскім руху ў Пецярбурзе, займаўся бібліятэказнаўствам, перакладамі з беларускай мовы на рускую, абараніў кандыдацкую дысертацыю, быў знаёмы і сябраваў са многімі беларускімі дзеячамі. Пра Уладзіміра Хлябцэвіча вядома намнога менш. Пра яго лёс упершыню шырока напісаў краязнавец і літаратуразнавец Сяргей Чыгрын.

Уладзімір Хлябцэвіч нарадзіўся 3 верасня 1894 г. у Жыровічах. У 1897 г. сям'я пераехала ў вёску Кленікі Бельскага павета, дзе Іван Хлябцэвіч служыў святаром. Там Хлябцэвічы пражылі 18 гадоў — да пачатку Першай сусветнай вайны, адкуль іх потым выгналі ў бежанства. Дамоў Хлябцэвічы з Расіі ўжо не вярнуліся. Жывучы ў Кленіках, Іван Хлябцэвіч арганізаваў некалькі беларускіх пачатковых школ. Побач з адукаваным бацькам прайшло дзяцінства самага малодшага сына Уладзіміра. Ды і Яўген часта прыязджаў на канікулы дамоў у Кленікі. Валодзя спачатку вучыўся дома, у 1913 г. скончыў гімназію, а потым па прыкладзе брата паступіў на фізіка-матэматычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта. Там Яўген пазнаёміў яго з Браніславам Эпімах-Шыпілам. Першая сустрэча адбылася каля ўваходу ва ўніверсітэцкую бібліятэку. З лёгкай рукі мэтра Уладзімір у 1915 г. напісаў этнаграфічны нарыс пра Кленікі. Яго некалі Яўген Хлябцэвіч перапісаў сваёй рукой, таму ён захаваўся, зберагаецца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

25 верасня 1915 года, пасля таго, як разам з маці і бацькам Уладзімір Хлябцэвіч падаўся з Кленік у бежанства, ён напісаў брату Яўгену, што закапаў у вёсцы 10 скрыняў, у якіх былі кнігі, рукапісы, лісты. Гэтыя скрыні ў Кленіках шмат гадоў шукала настаўніца беларускай мовы і літаратуры Марыя Базылюк, але знайсці літаратурны скарб так і не ўдалося.

Хлябцэвічы апынуліся ў расейскай Сызрані. У пачатку студзеня 1917 г. Уладзімір прыехаў да бацькоў на калядныя канікулы. 15 студзеня зноў паехаў на вучобу ў Пецярбург, быў ужо на 4 курсе. У Расіі пачалася Лютаўская рэвалюцыя, у якой ён узяў удзел. На Васільеўскім востраве ў Петраградзе яшчэ грымелі стрэлы. Туды 13 сакавіка на разведку быў накіраваны Уладзімір, які дзяжурыў у Таўрычаскім палацы. Яго аўтамабіль трапіў пад абстрэл. Першай была паранена сястра міласэрнасці Алена Шуп. Хлябцэвіч хацеў ёй дапамагчы, але кулямётная чарга смяротна параніла і яго. Цела Уладзіміра адвезлі да бацькоў у Сызрань. Пахаванне, на якое прыйшло каля 20 тысяч чалавек, адбылося ў „гарадскім садзе на Сімбірскай вуліцы" (цяпер Кузнецкі мост). Пазней у Сызрані адну з вуліц назвалі імем Хлябцэвіча, яна ёсць і цяпер. А на магіле ляжыць мемарыяльная пліта, якая патрабуе аднаўлення. У Расійскім Дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва ў Маскве захоўваецца шмат дакументаў, звязаных і жыццём і дзейнасцю Уладзіміра Хлябцэвіча.

Смерць сына Іван Хлябцэвіч перажываў вельмі моцна. Ён напісаў на рускай мове невялікую кніжачку „Краткий биографический очерк студента В. И. Хлебцевича" і выдаў у Сызраньскай друкарні Журкіна пры дапамозе свайго сябра Аляксея Ерамасава. Іван Хлябцэвіч пасля смерці сына пражыў толькі два гады.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Міжнародны Дзень жанчын

У мінулым па-святочнаму адзначаўся Дзень жанчын. Напярэдадні арганізаваліся святочныя вечарыны. Актыўных у грамадскай дзейнасці жанчын адзначалі ганаровымі граматамі і значкамі. На рабоце ўзнагароджвалі прэміяльнымі і рэчавымі падарункамі. Гэта традыцыя пакрысе захоўваецца і па сённяшні дзень, хоць зараз спасылаецца больш да падтрымлівання традыцыі, чым да пашаны жаночай годнасці.

8 сакавіка ў Гмінным асяродку культуры ў Чаромсе адбылася сустрэча, прысвечана гэтай падзеі. У мерапрыемстве ўдзельнічалі войт Міхал Врублеўскі, старшыня Рады гміны Сяргей Смык, дырэктар Школьна-дашкольнага комплексу Іаанна Гнатоўская, ксёндз Кшыштаф Дамарачэнька ды шматлікае кола жанчын з пасёлка і навакольных вёсак. У афіцыйнай частцы з адпаведнымі прамовамі выступілі войт Міхал Врублеўскі і старшыня Саюза пенсіянераў Мікалай Янчук, затым павіншавалі жанчын з іхнім святам. Да пажаданняў далучыўся ксёндз Кшыштаф Дамарачэнька. У мастацкай частцы выступілі школьнікі з гумарыстычнай сцэнкай «Рандка ў цемна». У заканчэнні сустрэчы мужчыны ўручылі жанчынам кветкі. Мерапрыемства праходзіла ў мілай, садэчнай атмасферы пры каве, гарбаце і салодкім пачастунку.



У той жа дзень у васьмідзесяці гарадах краіны прайшлі шматлюдныя пратэсты жанчын. Асноўным лозунгам было «Стоп насіллю над жанчынамі», аднолькавыя правы для жанчын і мужчын ды паляпшэнне сацыяльнага быту. Кульмінацыяй пратэсту была гадзіна «К», вызначана на шэсць гадзін вечара, дзе ўдзельнікі дэманстрацыі паказалі ўпраўляючым чырвоную картку на знак нязгоды для пагарды, якую нясе ўлада да суверэна. «Чорны пратэст» жанчын, які спантанна арганізаваўся 3 кастрычніка ў мінулым годзе, паказаў сілу жанчын. Ці сёлетнія дэманстрацыі, арганізаваныя ў рамках Агульнапольскага забастовачнага камітэта, паўплываюць на перамены, якія былі прад'яўлены ў пастулатах у час пратэсту, пакажа час. Я аптыміст і лічу на станоўчы вынік. У адзінстве сіла!

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**

## Кузня тканых габеленаў

Ужо трынаццаць гадоў у Гайнаўскім доме культуры дзейнічае майстэрня габелена. Габелен — непаўторная мастацкая праца, якую робіцца ў адну аснову. Майстэрню вядзе Зінаіда Якуць, інструктар па справах мастацтва. Спадарыня Зінаіда — выпускніца Мастацкага ліцэя ў Супраслі, па спецыяльнасці мастацкая тканіна.

У майстэрні ахвотна займаюцца таксама жанчыны з Нараўчанскай гміны, між іншым, Яланта Антоўская, Галіна Цагелка, Яніна Цвалінская, Людміла Якімюк, Данута Каліноўская, Мартына Кухарская, Анна Леанюк, Лідзія Назарук, Ніна Ажахоўская, Дарота Сенюць, Галіна Словік-Кендысь, Ліля Жох і Малгажата Краўчык.

Ткацтва габеленаў — гэта іх хобі. Яны выконваюць свае працы з выкарыстаннем ваўняных і баваўняных каляровых нітак ды іншых матэрыялаў. Добра атрымліваюцца тканыя краявіды, кветкі і іншая раслліннасць, біблейскія матывы, нацюрморт ды абстрактныя матывы. Яны выконваюцца цягам дзясяткаў гадзін. Тут патрэбны здольнасці і цярплівасць падчас працы. Кожная асоба індывідуальна разгортвае свой талент. Кожная майстрыха ідзе сваёй дарогай, мае свой індывідуальны стыль работы.

Працы габеленшчыц можна было агледзець на выставах у Гайнаўцы і іншых гарадах Польшчы. З нагоды выстаўвак ГДК выдае каляровыя буклеты са здымкамі лепшых прац. Апошняй была цікавая выстава габеленаў пад загалоўкам «Сонца на дыване» ў кастрычніку мінулага года ў ГДК.

**(яц)**



## Абяцанкі палітыкаў

У час прэзідэнцкіх выбараў у ЗША, дбаючы за галасы Палоніі, Трамп абяцаў у хуткім часе адмяніць візавы рэжым для палякаў. Зараз актывісты Палоніі адчуваюць сябе пакрыўджанымі больш чым праз Барака Абаму. Мела быць лепш, стала горш. Як інфармавалі СМІ, Польшча апынулася ў коле дзяржаў такіх як Кітай, Расея і Румынія, для якіх уведзена абвостраны візавы рэжым. Да гэтага часу грамадзяне Польшчы маглі хадайнічаць за новую візу без г.зв. інтэрв'ю пасля 48 месяцаў. Абвостраны рэжым скарачае тэрмін чатырохкратна — да 12 месяцаў. Адмяненні ўжо ўведзены на сайце амерыканскага пасольства ў Варшаве. Спадзяваўся дзед на мёд, лёг спаць не еўшы, — гавораць у народзе. І гэта праўда. Палітыкі гэта зманлівы народ. Не толькі польскія, але таксама і за акіянам, у нашага старэйшага брата-саюзніка.

**(ус)**

## 19.03 — 25.03

**(22.03. — 20.04.)** Энергія, самаўпэўненасць, ахвота паказацца. Будзеш падабацца таксама і сам сабе. У самотных Бараноў шыкуецца адмена ў пачуццях. Ацані шчырасць сяброў, якія адважацца ўрэзаць табе праўду-матку; не злуйся. Калі ты шэф, у выпадку, калі хтосьці з супрацоўнікаў уводзіць фермент і непаладкі, пазбудзься яго. Добрыя весткі ў фінансах. Варушыся, сядзь на дыету (будуць поспехі), заінвестуй у найлепшы крэм.

**(21.04. — 21.05.)** Твае справы будуць ісці добра, хаця так сабе ў пачуццях. Даруй правіну любай асобе! Не папракай «А я табе не казаў!?.», асабліва маладзейшых. Будуць магчымасці падзарабіць, кашалёк не схуднее. Магчымыя аварыі і выдаткі з імі звязаныя. 23-25.03. цэнзуруй свае выказванні. Цёпла апранайся, дбай аб свае ныркі і мачавы пухір.

**(22.05. — 22.06.)** Усяляк — раз сонца, раз холад. Не сумнявайся. У выпадку нейкага канфлікту падумай, ці трэба выцягваць гарматы на вераб'ёў. Могуць рассыпацца пары аснаваны толькі на фізічнасці. Не турбуйся блізкімі, нічога ім не пагражае, займіся сваімі справамі. Будзеш старацца падзарабіць, можаш спрабаваць прадаваць свае вырабы ў інтэрнэце. 22-25.03. дробная спрэчка можа перамяніцца ў зацяты канфлікт.

**(23.06. — 23.07.)** 21-22.03. можаш разлічваць на падтрымку ўплывовых і высокапастаўленых людзей. 22-25.03. пільнуйся, каб не ўблытацца ў інтрыгі і складаныя лады. Дакладна зашпілі свае мэты і імкніся да іх, нягледзячы на адпор канкурэнцыі; на канцы дарогі чакае цябе большы кабінет. Але не мусіш быць непрыступны і халодны. Апранайся цёпла. Пі чай йерба-матэ — раз'ясніць думкі і дадасць энергіі.

**(24.07. — 23.08.)** 19-20.03. трохі слабейшая форма. Адновіш старыя сяброўствы і кантакты. Не пакідай сваіх планаў, 19.03. атрымаеш імпульс для дзеяння. Шыкуецца файная імпрэза або нагода для выезду, не праваронь. Больш шпацыруй і бегай. З 23.03. (да 27.03.) хтосьці аддорыць табе ўзаемнасцю ў пачуццях!

**(24.08. — 23.09.)** Шчаслівыя выпадкі, пазбегнеш праблем і цэлым выйдзеш з розны прыгод. Не шкадуй сабе вольнага часу, адпачывай, займіся здароўем. 19.03. можаш пазнаёміцца з кімсьці, з кім будзеш шчаслівы. Вельмі асцярожна аднясіся да справы продажу ці куплі жылля. Маеш шанц знайсці працу — дай толькі знак аб тым, што яе шукаеш. Але з 22-25.03. у тваіх планах можа паблытацца.

**(24.09. — 23.10.)** 18-19.03. інтуіцыя цябе не падвядзе. Будзь спакойным і паслядоўным, з добрай стратэгіяй дасягнеш кожнай мэты. На працы без большых праблем зрэалізуеш усе свае задумы. Спыніся, добра падыхай — адчуеш прыліў сіл. З 23.03. (да 27.03) можаш закахацца з узаемнасцю. Выберыся ў лазню, на масаж, або зрабі сабе прыемную купель дома — вернецца табе добры настрой. Хаця блізкія асобы могуць цяпер стаць насуперак тваіх планаў.

**(24.10. — 22.11.)** Дасі сабе рады з найцяжэйшымі выклікамі. Шчасце зменлівае, настрой не папсуецца. Калі маеш партнёра, не зашкодзіла б яго прыпільнаваць, сарганізаваць, напрыклад, рамантычную вячэру. Можаш пагадзіцца са сваякамі, з якімі паспрачаліся вы даўно невядома за што. Калі аплікуеш на вышэйшую пасаду, патрабуй зарплату з сэнсам і без сораму, колькі табе трэба. Зачыняй добра дзверы, калі нават ты дома, хавай добра кашалёк.

**(23.11. — 22.12.)** 19-21.03. інтуіцыя падкажа табе вырашэнне праблемы. Ты цяпер на хвалі ўдач і карысных змен. У пары падыходзьце да сябе адкрыта і шчыра размаўляйце, пытайцеся пра свае згрызоты. Магчымае падарожжа, можа нават за мяжу, новыя ўражанні. Не давай веры неправеранным плёткам. Разумна выдавай грошы, асабліва калі маеш свой бізнес.

**(23.12. — 20.01.)** Адкрыюцца перад табою новыя гарызонты. На «мухі» партнёра глянь з боку. Прытуляйся. Адключыся ад сацсетак, кантактуй з жывымі людзьмі. Асабліва з сябрамі, з якімі даўно не бачыўся, з роднымі. Назірай і вучыся ад майстроў. 15 хвілін у дзень прысвяці толькі свайму целу. 22-25.03. не дзейнічай супраць сабе.

**(21.01. — 19.02.)** Магчымасці зарабіць і з прыемнасцю выдаць. Тэсціруй новыя прыёмы. Акрый хату, запрасі людзей. На працы свае рэвалюцыйныя прапановы пакуль схавай у стол, вернешся да іх праз пару тыдняў. Ачысці свой арганізм, напрыклад, лазняй, зёлкамі, танцам, рухам. 23-25.03. чакаюць цябе нявыгадныя пытанні, на якія трэба будзе даць адказ.

**(20.02. — 21.03.)** Шмат працы, для цябе прыемнай і карыснай. Лепшая форма. Магчымасці паправіць сваё фінансавае і матэрыяльнае становішча. Самотная Рыба няхай пакіне схему «праца — дом». Пашукай новай кампаніі, адгукніся да чужога чалавека. Не адмаўляйся ад урачыстасцей, хадзі на прыёмы. На працы і ў грамадзе пахваляць цябе і ацэняць. Купляй здаровую ежу, пі зялёную гарбату. 19-20.03. не зрабі кепскага выбару.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

## Адгаданка

**1.** пісьмовы або вусны зварот з заклікам да дзеяння, **2.** левы прыток Нёмана, у якім... чара, **3.** дзяржава туркаў, **4.** шчаціністыя валасы па баках верхняй губы ката, **5.** суб'ект у беларускім сказе, **6.** натхняючы паэтаў крылаты конь, **7.** папярэднік Трампа ў Белым доме, **8.** адзінка сілы, **9.** машына, якая косіць, малоціць, вее і сартуе, **10.** прыемны свежы пах, **11.** чалавек магутнай сілы.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

**(ш)**

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | | | | | 2 | | |
| | 3 | | | | | | 4 | | | | 5 |
| | | | | | | | | | 6 | | |
| | | | | 7 | 8 | | | | | | |
| | | 9 | | 10 | | | | 11 | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 9 нумара**

Вера, Віскулі, горад, крама, ніва, пуд, сук, ціс.

Рашэнне: **Гром у сакавіку — прадвеснік урадлівасці**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірослава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# У палескай глыбінцы (77)


За момант Прыпяць пераплыве ўкраінска-беларускую мяжу

Канец трасы! — абвясціў стомленым голасам шафёр. Ён завярнуў у кулёк харчы і газету, закрыў усе вокны і цярпліва чакаў, пакуль пакіну салон аўтобуса.

— А дзе ж мой Нобель? — спытала я.

— Ну, забіце мяне! — вінавата адазваўся шафёр. — На смерць забыўся...

Усё выглядала падазрона, я сама не ведала што думаць. Яшчэ ў Дубровіцы я папрасіла шафёра, каб спыніўся ў сяле, адкуль найбліжэй будзе ў Нобель. У Зарэчанах я перасела на перад аўтобуса, каб нахабна напамінаць пра сваю асобу і як накупленая паўтарала: «А ці далёка яшчэ мне трэба ехаць?».

— Не перажывайце, — супакойваў шафёр, — усё пад кантролем.

Праўда, апошнія дваццаць кіламетраў дарогі мы дабіраліся па расхістанай бруkаванцы, з хуткасцю шэсць кіламетраў на гадзіну. Сам салон напамінаў жалезную скрыначку з грашакамі. Усё бразгацела, звінела, адбівалася аб сценкі. Час ад часу шафёр з'язджаў на абочыну з пясчанымі каляінамі і тады салон напамінаў калыску — усё гойдалася, скрыпела, калыхала. Я не звяртала ўвагі на тэхнічныя хібы, бо не ведала, што чакае мяне за гадзіну-дзве. Абапал брукаванкі, ажно па небакрай, цягнуліся паўдзікія балоты, зафарбаваныя ўжо іржавымі колерамі восені. На горнай паліцы ў салоне стаяла паношаная „варэнька" — плецены кошык з лыка. Такія прадметы я бачыла ў буклетах пра этнаграфію Палесся. Кош з таварамі закідалі на плечы, каб зручней і больш свабодна вандраваць па лясных сцяжынках і балоце. І гэта не была аздоба салона. Кошык, як тысячу гадоў назад, служыў туземцам замест валізкі і рукзака.

Апошні адрэзак дарогі сярод балот уяўляў гладкае асфальтавае палатно і гэта канчаткова збівала з панталыку. Далей, як было сказана ўжо на пачатку, чакаў канец трасы — прыпынак Прыкладнікі. Тут ішла дзяржаўная мяжа паміж Украінай і Беларуссю. Хоць гэтая акалічнасць адкрывала новыя магчымасці, я зусім разгубілася. У мяне не было візы, каб ехаць у Беларусь. Адразу за кардонам знаходзіўся міфічны Нівель. Гэта была чарговая кропка на маім варажскім шляху, сюды я шмат разоў дабіралася ў думках. Усю выпадковасць я прыняла за добрую манету. Выглядала так, быццам сама дарога прывяла мяне ў Прыкладнікі-Нівель. Гэта быў яшчэ адзін доказ на тое, што дурны заўсёды мае шчасце!

* * *

Адначасова шафёр паінфармаваў, што наступны аўтобус, які наблізіць мяне да Нобеля, ад'едзе на наступны дзень. І дадаў: *Шчо робыты!* Каб атрэсціся з пачуцця віны, ён яшчэ схадзіў на кардон да памежнікаў і папрасіў дапамогі:

— Загадайце, каб хто падвёз *жиночку* ў бок Зарэчан!

— Вазьмі загадай, калі няма каму загадаць, — пачулася ў адказ. — Сёння ніхто адтуль не едзе. Апошнюю машыну з Беларусі адправілі мы тры гадзіны таму...

Сапраўды, на мяжы, якая афіцыйна працавала поўным махам, панавала дзівосная блакада. Як паясніў шафёр, а ён жыхар Прыкладнік і ведаў усе сакрэты, блакада штучна створана на беларускім баку. Тых пасажыраў, якія дабіраюцца на ўкраінскі бок, часта пакідаюць чакаць «у чарзе» па пяць-восем гадзін. І гэта тады, калі ў «чарзе» тырчыць толькі адна іх машына. Ну, проста смех і жах. Найгорш, калі хто з Пінска да бацькоў спяшае. На такія візіты выхадных не хапае...

Праз момант я паспрабавала ўявіць эмоцыі пінчука ў элегантнай машыне ад сустрэчы з архаічнай брукаванкай, якая знячэўку пераходзіла з асфальту ўжо па-за межамі Прыкладнік. І яна лічылася трасай міжнароднага рангу.

Але зараз мне трэба было дабрацца ў Марочна, адкуль праз дзве гадзіны меў ехаць аўтобус у напрамку Нобеля. Карацей кажучы, трэба было пераадолець дванаццаць кіламетраў на працягу дзвюх гадзін. Усе знакі на небе і зямлі паказвалі, што не паспею. Яшчэ ў Прыкладніках я згубіла трыццаць хвілін, усё з-за


У памежных Прыкладніках


Крыж у Прыкладніках

дзіўнай чаргі ў магазіне, куды я зайшла купіць вадзіцу. Хоць у чарзе была толькі адна кліентка, яе абслугоўваў увесь персанал, то-бок дзве прадаўшчыцы і падлетак. Жанчына набыла дваццаць кілаграмаў вяндліны і мяса, трыццаць бутэлек гарэлкі і віна, пяць кілаграмаў цукеркаў і столькі ж пячэння... Пасля гэтага яна стала грузіць у пластмасавыя кулькі бананы, вінаград, гародніну, касметыку, туалетную паперу. Прыехала на пакупкі з беларускага Нівеля.

Акалічнасці прымусілі, якраз выпалі мярліны ў сям'і — пра гэта жанчына апавядала ўціраючы слёзы. А чаму прыехала за прадуктамі ва Украіну? Бо тут танней, за свае пакупкі заплаціць удвая менш грошай як у сябе.

— Вам, дазволяць перавезці ўсё праз кардон? — пацікавілася я.

— Там у мяне ёсць сваяк, — адказала жанчына. — Ён ведае, што ў нас пахавіны, абяцаў, што дапаможа ў няшчасці.

* * *

У Прыкладніках мне параілі дабірацца ў Нобель напрасткі, па нейкай дамбе. Усё залежала ад таго, ці ў сяле знойдзецца машына, якая справіцца на выбоістым, парослым травой шляху паўз канал. Ідэя не была найгоршай.Такі стыль падарожжа меў у нечым наблізіць рэйд праз балоты, які не выходзіў з маёй галавы. Я нават дагаварылася з туземцамі, які абяцалі перавезці ў Нобель.

— Ідзеце над рэчку, а мы вас дагонім! — сказалі.

У гэтым цэлым закалоце, я зразумела, што зноў маю шчасце. Вось апынулася ў месцы, дзе Прыпяць максімальна набліжаецца да мяжы з Беларуссю. Неўзабаве рака перасячэ дзяржаўную мяжу, каб там явіцца душой беларускага Палесся.

Від паказаўся знаёмы. Прыпяць у сваім канчатковым цячэнні на тэрыторыі Украіны напамінала паміраючую рэчку. Толькі ў наваколлі моста вада была паднесенай, а ўжо за першым паваротам яна знікала сярод травы.

У час, калі я ўзіралася ў васільковыя тоні ракі, аброслай па баках жоўтымі гарлачыкамі, ад боку сяла данёсся тупат капыт. У мой бок на кані спяшаў маладзён. Ён прыскакаў на кані з дрэннай навіной. Аказалася, што тая машына, якой я мела дабірацца па дамбе ў Нобель, адправілася ў Беларусь і застрагла дзесьці ў іх на мяжы. Ніхто не ведаў, калі машына вернецца ў Прыкладнікі.

Я зразумела, што толькі сваімі нагамі адвяду ад сябе праклён блакад, ды пешшу ірванулася ў дарогу, якая сама па сабе напамінала дванаццацікіламетровую кладку, перакінутую сярод бязмежных балот.

На гэтым адрэзку, які называўся міжнароднай трасай, я магла схавацца ад усяго свету. І гэта мне падабалася.

Я яшчэ не ведала чаму ногі нясуць мяне ў небяспечнае месца, быццам хтосьці вырашаў за мяне.

(працяг будзе)

Фота і тэкст **Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960 12